**Ёганэс Р. Бэхер**

# Вяртанне да сябе

*Вершы*

*З нямецкай*

Мінск
Мастацкая літаратура
1985

# НЕРАЎНАДУШНАЕ СУМЛЕННЕ НАЦЫІ

У сузор'і выдатных паэтаў, якіх дало рэвалюцыйнае дваццатае стагоддзе, імя Ёганэса Р. Бэхера свеціцца адметным святлом.

Паэт нарадзіўся 22 мая 1891 года ў Мюнхене. Там прайшлі яго дзіцячыя гады, там ён закончыў гімназію. Пасля вывучаў філалогію, медыцыну і філасофію спачатку ў Мюнхенскім універсітэце, а пасля ў Берліне і Іене. Аднак вышэйшай адукацыі так і не атрымаў, захапіўшыся літаратурнаю дзейнасцю.

Ён рана пачаў пісаць вершы. Яго рана друкуюць. У аўтабіяграфічным матэрыяле «Смокінг і што пасля яго адбылося» Ё. Р. Бэхер успамінае, як яго, юнака, запрашаюць у люстраную залу мюнхенскага атэля «Чатыры пары года», дзе ён, апрануты ў смокінг, чытае вершы пра бога, каханне, прыроду. Калі пачалася вайна ў 1914 годзе, яго зноў запрасілі ў гэтую залу на патрыятычную дэманстрацыю. Аднак тое, што прачытаў юнак, ашаламіла публіку. Замест хвалы вайне паэт уганараваў яе ганьбаю, паказаўшы, якое знішчэнне, якія руіны нясе вайна. Яго хацелі набіць, ён ледзь уратаваўся. А назаўтра газеты раструбілі пра скандал у атэлі. Ад паэта адхіснуліся родныя і блізкія.

Каб не служыць у арміі, ён вымушаны жыць пад рознымі адрасамі ў Берліне. І з гэтага часу літаратура робіцца яго галоўным заняткам.

Ягоныя вершы таго часу напісаны ў выразна мадэрнісцкай манеры. У радках амаль не бачыш артыкляў і прыназоўнікаў — гэтых асноўных склонавых паказчыкаў назоўнікаў у нямецкай мове, парушаны элементарны сінтаксіс — клічнікі скачуць між слоў і ставяцца нават у пачатку сказаў. Перакласці такія творы амаль немагчыма. Бэхер пазней сам высмее гэта, назваўшы такія навацыі «шызафрэнічнымі іерогліфамі».

У 1917 годзе паэт уступае ў Незалежную сацыял-дэмакратычную партыю, а ў 1918 годзе — ў «Саюз Спартака». Цяпер у яго паэзію замест стыхійнага бунту ўваходзіць класавая, рэвалюцыйная барацьба пралетарыяту. Вядома, шлях да сацыялістычнага рэалізму быў у Бэхера не просты. Яшчэ доўгі час набліжэнне творчасці да

народа будзе разумецца ім як спрошчаная агітацыйнасць. Адкідаючы красу як «буржуазную» з'яву мастацтва, паэт адмаўляўся і ад вобразнага ўзнаўлення жыцця, ад канкрэтнага індывідуальнага перажывання.

Але ў сапраўдных творах паэт перамагаў гэтыя свае няспелыя ўяўленні пра сацыялістычную паэзію. З-пад яго пяра выходзілі вершы, якія і сёння складаюць славу нямецкай рэвалюцыйнай паэзіі. Сваю плённую творчую працу паэт заўсёды спалучаў з актыўнай палітычнай дзейнасцю. Ё. Р. Бэхер быў сярод стваральнікаў Камуністычнай партыі Германіі, быў членам яе ЦК.

Рэвалюцыйная творчасць і рэвалюцыйная дзейнасць Ё. Р. Бэхера выклікаюць лютую нянавісць у дзяржаўных колах. За зборнік «Труп на троне», за антываенны раман «Люізіт, або Адзіная справядлівая вайна» (1926) супроць пісьменніка ўзводзіцца абвінавачанне ў падрыхтоўцы «дзяржаўнай здрады». Тры гады збіраюцца матэрыялы імперскім судом для палітычнага працэсу. Следчых збянтэжыць выяўна рэвалюцыйная дзейнасць пісьменніка і яго сацыяльнае паходжанне. Нечувана: яго бацька не проста «добранадзейны» бюргер, а чалавек, што быў пракурорам, а пасля займаў і іншыя высокія пасады ў судовых інстанцыях Мюнхена! І вось пісьменніка, вядомага ўжо і за мяжою, вымушаюць стаць перад судова-медыцынскім экспертам прафесарам Штраўхам дзеля высвятлення разумовай і псіхічнай паўнацэннасці.

Але суду не было. На абарону Ё. Р. Бэхера выступілі пісьменнікі з многіх краін свету. Асабліва моцна прагучаў голас Максіма Горкага. І цемрашалы збаяліся.

Сёння з выключнай цікавасцю перагортваеш старонкі старэйшага беларускага часопіса «Полымя» за 1927-1928 гады, амаль кожны нумар якога прыносіў нашаму чытачу палымяныя творы Бэхера — верш, баладу, паэму, апавяданне, артыкул, раман. Прыемна адзначыць, што ў цяжкі час, калі над пісьменнікам завісла судовая пагроза, «Полымя» было адной з тых трыбун, з якіх стала гучаў голас свабодалюбнай, рэвалюцыйнай Германіі. Наш старэйшы часопіс з поўным правам ганарыцца, што ў ліку членаў яго рэдакцыйнай калегіі ў даваенныя гады побач з Юліусам Фучыкам быў славуты сын нямецкага народа. А тым часам у Германіі ўсё больш згушчаюцца чорныя хмары.

Надыходзіць 1933 год, і рэакцыя святкуе перамогу. Растоптаны ўсе чалавечыя правы, у краіне душыцца ўсё жывое, перадавое. Фашысцкая ноч залягае над краінай.

Аднак сярод 88 пісьменніцкіх подпісаў пад халуйскаю «Клятваю вернасці і пакоры» Гітлеру нямецкі чытач не ўбачыў ніводнага вартага імя. З сапраўдных талентаў адны замоўклі, другія апынуліся ў эміграцыі. У кастрычніку 1933 года ў Парыжы арганізоўваецца Саюз нямецкіх пісьменнікаў, ганаровым старшынёю якога выбіраецца Генрых Ман. Саюз наладжвае выданне нелегальнай літаратуры для бацькаўшчыны.

Дарога выгнання завядзе Е. Р. Бэхера ў першы год спачатку ў Аўстрыю, пасля ў Чэхаславакію, потым Швейцарыю, пазней у Францыю... У 1934 годзе пісьменнік пераязджае ў Савецкі Саюз. Горача вітаюць у Краіне Саветаў вядомага нямецкага антыфашыста, аўтара славутых твораў пра рэвалюцыю, Леніна, пра наш першы пяцігадовы план. Ё. Р. Бэхер прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці нашай краіны.

Беларускія пісьменнікі старэйшага пакалення добра памятаюць, як на пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў у Мінску ў 1936 годзе Ё. Р. Бэхер натхнёна заклікаў: «Наша паэзія павінна быць такая, каб можна было вывучаць гэты час, не перагортваючы газеты, а чытаючы нашы вершы...»

Паэт шмат робіць для згуртавання нямецкіх пісьменнікаў-антыфашыстаў. Еп рэдагуе пашыранае выданне часопіса «Інтэрнацыянальная літаратура» на нямецкай мове, якое мела падзагаловак «Дойчэ блеттэр» і дзе яму даводзілася выступаць у самых розных жанрах. Ягоны голас часта гучыць у радыёперадачах на Германію...

Але асабліва шмат і плённа Ё. Р. Бэхер працуе ў галіне паэзіі. Яго творы, як і іншых пісьменнікаў-антыфашыстаў, трапляючы ў захопленую фашыстамі бацькаўшчыну, сапраўды былі, паводле выразу Вайнерта, партызанамі, закінутымі ў тыл праціўніка. З 1943 года Бэхер працуе ў нацыянальным камітэце «Свабодная Германія».

У 1945 годзе, адразу ж пасля разгрому фашызму, пісьменнік вяртаецца на бацькаўшчыну. Тут ён узначальвае рух перадавой інтэлігенцыі за будаўніцтва дэмакратыі і сацыялістычнай культуры, выбіраецца старшынёю Культурбунда (Саюза дзеячоў культуры).

Ё. Р. Бэхер — член ЦК САПГ, дэпутат Народнай палаты ГДР, член Сусветнага Савета Міру, прэзідэнт Акадэміі мастацтваў, з 1954 года і да апошніх дзён жыцця — міністр культуры ГДР. За стварэнне нацыянальнага гімна ГДР і ўсю творчасць ён пашанаваны дзвюма нацыянальнымі прэміямі — у 1949 і 1950 гг. У 1952 годзе ён уганараваны міжнароднаю Ленінскай прэміяй «За ўмацаванне міру паміж народамі» — барацьба за мір была сэнсам усяго яго жыцця, пачынаючы з часоў першай сусветнай вайны.

Як пісьменніку і як арганізатару літаратурнага руху Ё. Р. Бэхеру часта даводзілася ісці па цаліку, разам з паплечнікамі па творчасці і барацьбе вырашаць тыя пытанні, якія паўставалі ўпершыню перад сацыялістычнай культурай. Як вынік-падагульненне гэтых роздумаў пра паэзію ў апошнія гады жыцця ствараецца тэарэтычная тэтралогія — «Абарона паэзіі», «Паэтычная споведзь», «Улада паэзіі», «Паэтычны прынцып» — важкі ўклад Бэхера-тэарэтыка ў паэтыку сацыялістычнага рэалізму.

Такая шматгранная грамадская, службовая, творчая дзейнасць Е. Р. Бэхера была магчымая толькі дзякуючы выключнай дысцыплінаванасці. Гэта быў чалавек вялікага зайздроснага працалюбства. Па словах людзей, якія добра знал і яго, ён штодня рана падымаўся і зараз жа садзіўся за пісьмовы стол. Увечары таксама доўга гарэла святло ў яго ў пакоі. І нават калі паэта напаткала цяжкая хвароба, ад якой беспаспяхова лячылі яго і ў бальніцы і дома, і калі Бэхер ужо добра ведаў свой няўмольны канец — у маладосці калісь ён грунтоўна вывучаў медыцыну,— ён і тады настойліва, у працы, вёў змаганне за свае апошнія дні. І яго па-ранейшаму абыходзіла ўсё, што адбывалася ў роднай краіне, у свеце, асабліва ў Савецкім Саюзе. Праз Лілі, сваю жонку, адданую таварышку і паплечніцу, якая за гады жыцця ў нашай краіне вывучыла рускую мову (сам паэт ёю не валодаў, хоць зрабіў нямала перакладаў з савецкай паэзіі), Ё. Р. Бэхер быў добра азнаёмлены з падзеямі ў савецкай літаратуры. Ён быў узрушаны ачышчальным подыхам XX з'езда КПСС...

Мінула чвэрць стагоддзя, як памёр (1958) паэт. Стаўся гісторыяй сам час, калі ён пісаў. І міжволі напрошваецца пытанне аб сучасным гучанні паэзіі Е. Р. Бэхера ў

ГДР. Бо гэта заўсёдны, заканамерны працэс дыялектыкі: жывая творчасць, робячыся спадчынаю, ператвараючыся ў традыцыю, мае патрэбу і ў пэўным адштурхоўванні ад сябе наступнай паэзіі, перад якой устае новае жыццё, новыя праблемы, задачы. І гэтае адштурхоўванне можа прымаць розныя формы. Згадайма такую з'яву ў сусветным мастацтве, як драматургія Брэхта, і вострапалемічны адыход сёння яго вучняў у ГДР ад эстэтычных прынцыпаў драматурга.

Як жа з Бэхерам?

Тут таксама спачатку было не проста. І зусім не з тае прычыны, што сяму-таму з літаратараў яшчэ пры жыцці паэт здаваўся занадта «гётэанцам», «неакласікам» і прагнулася, каб ён быў большым «авангардыстам». Успаміны блізкіх засведчылі бэхераўскае: «Я не люблю «чырвоных» мадэрністаў».

Успрыманне паэтавай спадчыны ішло складана з іншых прычын. Паслухайма, што казаў у сваім дакладзе на адной з бэхераўскіх канферэнцый літаратуразнавец Хорст Хаазэ: «...усё мацней сталі адчувацца тэндэнцыі, якія заўважыліся ўжо пры жыцці паэта: нязменнае цытаванне яго вершаў, прамоваў, эсэ, выкарыстанне іх як навучальнага матэрыялу, які нярэдка асвятляўся аднабакова і павярхоўна,—усё гэта наўрад ці спрыяла захаванню дзейснасці Бэхеравага слова. Культурна-палітычныя і літаратурна-прапагандысцкія спробы падмацаваць жывасць бэхераўскага слова з цяжкасцю дасягалі выніку. Апрача ўсяго, шмат што з яго спадчыны было проста невядомае» («Weimarer Beiträge», 1978, № I, с. 79).

Але з паловы пяцідзесятых і асабліва шасцідзесятых гадоў маладыя паэты пачынаюць усё больш звяртацца да шматпраблемнай творчасці Бэхера. Пісьменнік, якога доўгія гады найперш ведалі як песняра дзяржавы рабочых, цяпер прыцягваў чытача сваёю крытыкаю бюракратызму, дагматызму, двурушнікаў і крыкуноў. Не левы экспрэсіянізм ранняй творчасці цікавіў літаратурную моладзь, а якраз позняя лірыка паэта, у якой па-мастацку ўвасобіліся праблемы новага грамадства, спрычынілася да «ажыўлення» ў чытацкай свядомасці Бэхеравай спадчыны. Яскравым сведчаннем «вяртання» паэта ў нашы дні з'явіўся тэлевізійны фільм «Таямніца Ё. Р. Б.», пастаўлены ў 1975

годзе Паўлем Вінсам,—фільм, які меў шырокі розгалас у ГДР. Дзеячы мастацтва, вучоныя, рабочыя, студэнты, школьнікі расказвалі ў ім пра сваё разуменне Бэхера і яго значэнне для сучаснасці. Сапраўды, усё новыя і новыя чытачы цягнуцца да яго выдатнай паэзіі. Конкурс дзіцячых малюнкаў паводле вершаў Бэхера яшчэ раз засведчыў вялікую папулярнасць паэта.

Тым і тлумачыцца «таямніца» жывой надзённасці і сёння Бэхеравай творчасці, што паэт у сваіх найлепшых творах быў заўсёды зацікаўлена чулы да жывой рэчаіснасці, да сацыялістычнага будаўніцтва. А цяпер пра гэтую кнігу. Са шматтомнай спадчыны паэта гэта, вядома,—няшмат. Але гэты зборнік дасць жывое ўяўленне нашаму чытачу пра паэзію Ёгана Р. Бэхера.

Чытач сустрэне тут вершы аб нашай рэвалюцыі, аб Леніне, Марксе. Толькі камуніст, толькі паэт сацыялістычнага рэалізму мог так сказаць пра партыю: «Ты — ...мая Айчына і мая Радзіма».

У зборнік сабраны вершы розных гадоў. Як адметна чытаеш тут, скажам, творы аб роднай мове, аб бацькаўшчыне, так непадобныя да тых, якія мы звыклі чытаць у розных літаратурах. Нялёгка было прамаўляць паэту «я — немец» у тыя часы, калі ў мільёнаў людзей з гэтым словам найперш уставаў вобраз акупанта...

А незабыўныя «Дзіцячыя туфелькі з Любліна». Гэты верш быў напісаны паэтам, відаць, неўзабаве пасля нарыса К. Сіманава «Лагер знішчэння». Людзі старэйшага пакалення, магчыма, памятаюць апублікаваны ў «Красной звезде» ў трох жнівеньскіх нумарах 1944 года сіманаўскі матэрыял пра Люблінскі канцэнтрацыйны лагер, у якім знайшлі мяхі з дзіцячым абуткам. І вось Бэхер у сваім вершы ўяўляе суд над катамі. У залу як абвінаваўцы ідуць бясконцым патокам туфелькі спаленых і задушаных газам дзяцей — туфелькі з розных ножак, туфелькі з самага рознага матэрыялу, і вышываныя, і з кутасамі, з якімі малеча, пэўна, любіла гуляць...

Такія вершы адкрывалі праўду нямецкаму народу пра фашызм, праўду, якой і цяпер не хочуць прызнаць рэваншысты ў ФРГ, намагаючыся сказаць, што гэтага не было...

Чытач пазнаёміцца тут з некалькімі санетамі — невялікай часцінаю таго, што створана паэтам у гэтым жанры: Бэхераў том 1956 года ўключаў 563 санеты, з якіх 360 былі напісаны ў эміграцыі.

Ва ўсіх творах чытач адчуе біццё высакароднага сэрца!

Адгорнем жа старонкі Бэхеравай паэзіі, якія тут выбраў і ўзнавіў Уладзімір Папковіч, сам таленавіты паэт, выхаванец Мінскага інстытута замежных моў.

*Анатоль Клышка*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ
## РУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ
## 1917 ГОДА

Воля гільяцінам! Хай гуляюць!
Мкне натоўп праз плошчы — на цароў!
Промні пальцаў трапна хай цаляюць
Ім у сэрцы! Хай пускаюць кроў!

## ДОЎГІ НАШ ШЛЯХ

> Доўгі наш шлях на Тыперэры,
> Ды там маё сэрца жыве...
> *Англійская салдацкая песня*

Доўгі наш шлях цераз кроў і гніенне —
Могілак пыл,—
Тут нават вольна дыхаць
Няма аніякіх сіл.

Доўгі наш шлях цераз дні і змярканні,
Праз ночы і змрок,—
Побач крочыць пытанне,
Збівае наш крок:

«Няўжо забудземся пра гарматы,
Пра тое, што ў іх жарале?
Няўжо пахаваемся ў хаты —
Чакаць, што бог пашле?

Можа, раптам салодкія бэры
Ці пірог
Зваляцца з неба?!» Няма ў гэта веры,
Мёртвы даўно наш бог.

На рыштаваннях, дзе вецер гудзе,
Гайдае іх з боку ў бок —
Там, дзе машыны, дзе пара, дзе
Цячэ электраток,

Там, дзе канвеер ані на міг
Пярэдыху не дае,
Дзе ў начную змену хлопцы ідуць,— для іх
Фабрычны гудок пяе,

Там, дзе ў трубах шумна вада віруе,..

Дзе кабель, раскручваючы маткі,
І пад вадой, і па сушы вандруе,
Пад чорным асфальтам пралёг напраслкі,

Там, дзе рабочых марозіць зіма,
Што мачты ставяць, а бура іх рве...
Жыцця там няма...
Ды сэрца маё там жыве.

Там, пад зямлёй, дзе не ўстаць аніяк,
Дзе газ і смурод,—
Абвалы грымяць. «Трымайся, гарняк!»
«Паўстань, народ!»

Там, дзе на полі арэ селянін,
А грунт цяжкі,
Дзе, звалены ў груд адзін на адзін,
Ляжаць мерцвякі,

Там, у турме: адзін толькі крок —
Наперад, назад, к сцяне.
Тры разы па кроку. Заціхне знарок.
Паслухае. Зноў пачне...

Там, у парваным старым шынялі,
Дзе дзірак — не адна, не дзве...
Дыхнеш яго духам — з ног можа зваліць,—
Ды сэрца маё там жыве.

Там, дзе з прыгнётам ідзе вайна,—
Там, дзе ў моры сцягоў
Агнём кумачовым палае труна,—
Мы помнім героя свайго...

Там, дзе дарогай, крывёй залітай,
Калона пракладвае шлях,
Канаюць ля сценкі, куляй прашытыя...
Доўгі наш шлях.

Доўгі наш шлях з непрасветнае ночы —
З шахт, руднікоў.
На белы свет аслеплыя вочы
Адкрыюцца... у мерцвякоў —

Доўгі наш шлях. Жалезныя путы,

Голад у жываце.
Спяць на задворках апоўначы лютая —
Войска пакутных расце...

Паўсюды: дзе сходкі, дзе марш калон,
Дзе стогн плыве,
Дзе масы забітыя «Хопіць!»
крычаць як праклён
Там сэрца маё жыве.

## СМЕРЦЬ БЕСПРАЦОЎНАГА

I
Яшчэ раз выйшаў у бязлюдны змрок,
У ноч пайшоў пацiху са двара.
Ён азiраўся i прыцiшваў крок,
Ледзь чутна прашаптаў сабе: «Пара!»

Стаяў каля вялiзнага плаката,
Чытаў: «Гуртуйся, пралетарыят!»
«Браты, даруйце! Знаю — вiнаваты,
Не маю сiлы стаць да вас у рад».

Цяплынь неверагодная была —
Свяцiла сонца сёння цэлы дзень.
З кафэ мелодыя плыла.
Паплёўся непрыкметна, нiбы цень.

II
Ён вокны зачынiў. Дзесь уначы
Дзiця заплакала. Махнуў рукой:
«Маўчы, малое! Не крычы...
Я адыходжу. Дайце мне спакой...»

Ён кран адкрыў. Газ зашыпеў.
Шум, як вiхор, пачаў расцi.
Тут лес гудзеў, тут чуўся хваляў спеў.
Ён iх, на жаль, не бачыў пры жыццi.

Ён задыхнуўся i на бок зваліўся.
(Ён хлапчуком любiў сухi мiндаль.)
Здалося: ля дзвярэй званок залiўся.
Хто там прыйшоў? Яго забрала даль.

Здалося, чуў, як барада расце,
А галава ад каўняра ўзляцела.
I рукi мёртвыя на жываце
Ляжалi, як адбiтыя ад цела.

III
Сабака забрахаў каля варот.
Устала сонца. Цені аджылі
І паплылі. Мярцвяк ашчэрыў рот.
А вочы белыя, як мел, былі.

## МАСКВА,
## КАСТРЫЧНІК 1927 г.

I

Мы ехалі з захаду. Штосьці
Нас непакоіла ўсіх.
Здавалася пай: мы едзем у госці
Да самых блізкіх сваіх.

Нівы абапал, будовы радамі.
Званок на вакзалах гучыць.
Як саркафаг з мерцвякамі — з намі
Цягнік праз Сусвет імчыць.

Тое, што чулі або чыталі,
Наяве ўсплыло.
Займае дух. Далей, далей...
Ажно ў скронях грымець пачало.

Прыпомнім Германію — боль і грэх,
Ілжывыя маскарады.
Міністры, факстроты, радыёбрэх
І Гіндэнбургавы святы-парады.

А мы? Ці сілу калі збяром?
Глядзі: генерал-ваяка
Па Курфюрстэндам у касцы з пяром
Ідзе, як нічога ніякага.

Польшча. Вайскоўцы ўздоўж перона.
Якая раскоша! Як нажылі?
Бывай жа, Германія! Мы ўсё роўна
Вернемся — ў сіле — да роднай зямлі.

Вёскі, забітасць, жабрацкі бруд.
Людзі, нібы з труны.
Варшава. Бляск афіцэрскі, як цуд.
Дзе грошы рабуюць яны?

І зноў надыходзяць вечар і ноч,
А мы на нагах усе.

Як быццам звалілася покрыва з воч —
Вароты ў чырвонай красе!

Краіна Саветаў! Шыр зямлі!
Вецер закручвае снег.
У тысячы горлаў мы загулі,
Ноч абудзілася. Плач і смех.

Ці гэта ява ці казачны цуд?
Усе гаваркія зрабіліся.
Бягуць паўстанкі. «Прачніся, мой люд!»
Мы ў праходы збіліся.

Ночы і дні паляцелі няўлоўна.
Золата макавак-купалоў.
У высі лунаюць сцягі чырвоныя
Замест крыжоў і царскіх арлоў.

Я ўбачыў людзей, якія смяюцца,
Шэсце шчаслівых вясёлых людзей:
Тут селянін і рабочы смяюцца,
Іх радасць ад сэрца ідзе.

Нэпман спуджаны з-за фіранак
На вуліцу вокам косіць...
Гарыць, палымнее чырвоны ранак
У шматгалоссі.

Вуліцы поўніліся людзьмі
Да самай Чырвонай плошчы.
Няма дзе ступіць. А дзесьці грыміць
Святочных салютаў пошчак,

Я быў як у сне. Ці гэта сон,
Ці ява жывая? Што адбылося?
Рускі рабочы паўстаў, і ён
Стаіць, як з зямлёю зросся!

Вось ГПУ — сталёвы атрад
Праходзіць пружыпістым крокам.
Конных чэркесаў лятучы нарад

Па плошчы Чырвонай працокаў.

Рабочая гвардыя, скуранкі чорныя.
Калоны доўгія — на сем гадзін.
Грукочуць гарматы: «Мы непакорныя!»
«Інтэрнацыянал» пяюць як адзін.

Над пазалотай туман бялее.
Пахне порахам ад Крамля.
Сцягі і шаблі схілены ля Маўзалея.
Ад крыкаў «ура!» нам аж глоткі баляць.

Чырвоная Армія! Любім цябе,
Як маці дзіця, што ў пакутах радзіла.
Дзесяць гадоў, што прайшлі ў барацьбе,
Ты натую клятву ў сэрцы насіла.

Чырвоная Армія! Чырвань шчок
Аж палымнее ў чырвоных салдатаў.
На шостай частцы Зямлі іх крок
З'яднаўся навечна з песняй крылатай.

Чырвоная Армія! Сцяг крывавы!
Рабочую кроў у ім пазнаём!
Вінтоўкі, гарматы, як вашы справы?
Гатовы да бою! Без промаху б'ём.

Я нюхаў будзённасць і пыл Масквы,
У мяне распытвалі на заводах:
«Скажыце, а як у Германіі вы —
Ці скора здзейсніце волю народа?»

Будоўлі імкнуцца пад неба, апоры
Нясуць электрычныя правады.
Цягнучы бэлькі, аж выюць маторы,
Вышынных дамоў вырастаюць рады.

Усё, што я ўбачыў,— цудоўна і дзіўна.
Плынь, што віруе,— як апішу?
Людзі, іх справы — усё незабыўна.
Але завяршу:

Рабочы Расіі! Браце наш кроўны!
Ты адабраў у няпраўды рулі!
Слухай, Германія! Мы усё роўна
Вернемся — дужыя — к роднай зямлі!

II
Мароз кусаў. Мы грэліся ў хадзе,
Калі ішлі у цеснай грамадзе.
Гарэла чырвань, нас сцягі віталі,
Сярод сяброў і мы сваімі сталі.

Ноч патанула ў моры святла:
«Дзесяць гадоў! Саветам — хвала!»
Там, на Маскве, ззяюць кветкамі ў лузе
Электрастанцыя, Дом прафсаюзаў.

Усмешлівых твараў не палічыць.
Мільённагалоса паўсюды гучыць:
«Таварышы, гляньце! Заводы, дамы —
Мы збудавалі ўсё гэта... мы!

Нафта бакінская ў трубах віруе,
Вышкі ставім — свідруем, свідруем!
Вугаль, металы дае нам Данбас,
Хлеб выспявае — на стол і ў запас.

Над стэпам, над тундрай гудуць правады,
Звязваюць вёскі і гарады.
Ёсць самалёты, і танкі, і газ.
Станем байцамі ў пагрозлівы час.

Таварышы! Слухайце голас Масквы!
Перабудуйце дзяржаву і вы!
Дзесяць гадоў прайшлі —
Калі мы збяромся ў вас, калі?»

Мы слухалі сэрцам праз боль нямы.
Што будзе з радзімай? Хто ў ёй — мы?
Мароз знадворку. У сэрцы мароз.
Ці зробім шчаслівым Германіі лёс?

Потым да Леніна шлях нас вядзе.
Тут нават паветра застыла ў бядзе.
У чорным касцюме ляжыць ён. Запалыя грудзі.
Вачыма ягонымі свет бачаць людзі.

III
Прыйдзе вечар, калі
Мы збяромся, каб развітацца.
Будзе вецер калючы гуляць па зямлі,
Будзе снег па дарогах качацца.

Завые адна, другая
Сірэна — праводзяць без слоў.
Азія нам паміргае
Золатам купалоў.

**МАЦІ**

I

Радзіўся сын, хоць і ў гадах была.
Малы не спаў і плакаў без канца.
Але падрос, цяпер яна магла
Глядзець з надзеяй на свайго хлапца.

Пагляд меў бацькаў — светлы, не крывы.
Ды гора! Бацькі не было даўно.
Ён быў рабочы, будаваў дамы,
Яго там і прыбіла бервяно.

Тры месяцы ляжаць сказаў урач
І болей есці мяса, малака.
Пайшла рабіць — хоць хвораму на харч,
А ён памёр, не ўбачыўшы сынка.

Ішла вайна. Магла да рання
Сядзець каля акна... сядзець, маўчаць.
Насупраць вокны — рамаў скрыжаванні...
Ці то крыжы магільныя тырчаць?

II

Ідзе ў гараж уранку, у чатыры,
Там бляск наводзіць вокнам і машынам.
«Расце сынок. Ён пойдзе працаваць...»
І заўсміхаецца: «Хоць адпачну за сынам».

Хадзіла ў хаты да багатых.
Дадуць, бывала, хлеба з малаком.
Каля дзіцяці ціхенька прысядзе.
«Як смачна есць!» — любуецца сынком.

III

Сын вырас. Працаваў. Бываў і беспрацоўны.
Хадзіў на сходкі — клікаў і яе.
Яна ж заплача і махне адмоўна:
«Баляць, сыночак, ножанькі мае».

Таварышы спрачаліся ў пакоі

Аб партыі, аб класавых баях.
Раз праз акно зірнула — што такое?
Калона. Песня. Сын трымае сцяг.

З ягоных кніжак узяла употай
Адну. Чытала. Божанька святы,
Як цяжка! З гэтаю работай
Ажно замерзла. Села да пліты.

IV
Аднойчы рана-раненька «пад'ём!»
Сказаў сабе, бадзёры і вясёлы.
«Святкуем, мама, Першамай. Ідзём
Калонамі, хоць і няма дазволу».

Агонь імгненна распаліла ў печцы,
На каву хутка наліла вады,
Зацыравала дзірачку ў шкарпэтцы,
Шаптала ўслед: «Пільнуйся ад бяды!»

V
Яна чакала сына дацямна.
Будзільнік цікаў, як прадказваў гора.
Пайшла шукаць. Натоўпы. Гамана.
Паліцыя лупцуе без разбору.

Замерла сэрца, голас як не свой.
Паліцыянты і яе пасмелі біць.
Трымала рукі па-над галавой:
«Шукаю сына... Дзе ж ён можа быць?»

VI
Ён сам прыйсці дамоў ужо не мог.
Прынеслі моўчкі ранкам удваіх.
Дапамагла пераступіць парог.
Глядзела сыну ў твар. І свет заціх.

Вады нагрэла і вядро прынесла.
Вісеў ручнік чысцюткі на кручку.
Пяшчотна мыла, як дзіця малое.
Знайшла білет партыйны ў пінжаку.

VII
На трэці дзень атрад іх баявы
Ішоў за ім жалобнаю сям'ёй.
Здымалі людзі шапкі з галавы.
Спявала маці. Сын быў побач з ёй.

Яна спявала: «Мой сыночку, сыне!
Твой шлях далёкі — паднясу цябе!»
Не верыла, што сын яе пакіне.
Яна праносіла яго ў сабе.

## СЦЯГ

Прыйшлі таварышы. Яны кавалкам
Матэрыі прыкрылі мёртвы твар.
Прамокла палатно крывёю цалкам —
Быў куляю прабіты твар.

Так ён ляжаў. Ператварыўся твар
У сцяг крывавы, баявы, чырвоны.
Бывай, таварыш! Над калонай
Чырвоным сцягам твой лунае твар.

## ВОЛЯ

Я — вольны чалавек. Мае бацькі
Былі таксама вольныя — ад грошай.
Міналі вольна крамы і шынкі,
Мне цацкі не прыносілі харошай.

У святы сябрукі за дзве шчакі
Ласункі елі. Чмякалі нягожа
Вакол мяне. Я ж вольны быў такі,
Што мог чакаць, ці бог мне дапаможа.

Калі «ўваход свабодны», безумоўна,
Табе сарваць там могуць галаву.
Я — вольны ад яды, я — беспрацоўны,

Ад хаты вольны, ў чужыне жыву.
О гэта воля! Вось яна якалі
Няхай такая лепш навек знікае.

**ПРА НАШУ МОВУ**

Хай забароняць мову таксама,
Хай з рота нам словы павырываюць —
Тыя, што любім.

Бяруць на сябе ці не занадта,
Думаючы,
Што мы будзем бегаць, заціснуўшы рот,
І маўчаць?
Што толькі вачамі
Будзем употай міргаць для знаку?

О, мы здолеем словы свае схаваць!
І хатні вобыск
Не зможа знайсці іх.

Праўда, часта свой сказ абрываць
Мы мусім не там,
Дзе кропка стаіць.

Кропку мы раз паставім
Дакладна туды,
Дзе належыць.
І толькі за кропкай — пасля
Сказ адмысловы пачнецца.

## СЭРЦА, ПАМАЎЧЫ...

Спі, дзіця, бо жарт такі:
Гэтыя вінтоўкі не страляюць.
Добрыя дзядзькі — гуляюць
Разам з татам ля ракі.

Спі, дзіця... Ты чуў праз сон
Нечы крык? Крык быў не татаў.
Тату павялі салдаты.
Проста спатыкнуўся ён.

Спі, дзіця, маўчы, дзіця,
Чуеш смех салдацкай варты?
Спі, дзіця, маўчы, дзіця,
Гэта грубыя іх жарты.

У лугах, там, дзе рака,
Ловіць матылькоў наш татка.
О, якога матылька
Ён злавіў табе, дзіцятка!

Падрасцеш — тады табе
Раскажу ўсё чыста па парадку.
Больш ніколі ты не ўбачыш татку...
Сэрца, сэрца, памаўчы ў журбе...

Спі, дзіця, маўчы, дзіця,
Праўды не кажы — яна ў загане,
Нават небяспека для жыцця —
Сёння праўда у Германіі —

Сэрца, памаўчы, не плач, дзіця!

## ЗЯЛЁНЫ ЛУГ

Апошні раз я глянуў з цягніка,
З Германіяй развітваўся — ўлюбёны.
Была Германія, як луг зялёны —
Квяцісты астравок мацерыка.

Я часта мару: подых вецярка
Мне лашчыць ногі босыя, далоні,
Нясе мяне зялёная рака,
Аж вочы мружу — ў зелені ў палоне.

Што робіцца са мной? Ляжу, пяю...
Вакол трава без краю, без канца.
Сеў конік-дзёгцік на шчаку маю.
П'ю водар казяльцоў і дзьмухаўца.

Гайдаецца зямля, мяне люляе.
Ляжу на лузе... так сабе ўяўляю.

**ІМКНЕЦЦА СЭРЦА**
**ДА ЦЯБЕ…**

Няўжо той верш, табе адрасаваны,
Сказаў усё, пра што не гавару:
Што без цябе я, нібы ліст сарваны,
Згублюся і няведамы згару.

Калі я, горкім лёсам змардаваны,
Прачнуся, сустракаючы зару,
І ўбачу дзень, у сінь пафарбаваны,—
Імя тваё перш-наперш паўтару.

Стары вятрак у тым краі далёкім,
Дзе ты жывеш, ледзь кратае крылом.
Тваю прысутнасць у павеве лёгкім
Прыносіць ветрык з сонечным цяплом.

Вятрак зазыўна крыламі махае.
Імкнецца сэрца да цябе — кахае.

## СЕМ ЦЯЖАРАЎ

Сем цяжараў на сабе нашу я,
Сем паклаж усклалі на мяне,
Ды палёгкі ў лёсу не прашу я,
Лёс такі нікога не міне.

Выў цяжар ускладзены найпершы
На мяне шчэ ў мамы ў жываце.
Той цяжар — магчыма, найцяжэйшы —
І цяпер маю душу гняце:

Ціск стагоддзяў, іхні боль і сорам
Я нясу з пакорай па зямлі,
Нечае нявыплаканае гора
І пакуты, што душу пяклі.

Ціск дзяцінства — прагная цікавасць.
Што? Чаму?.. Каб мпога не пытаў,
Па губах наўзмах мне білі: «На вось!»
Я з цяжарам гэтым падрастаў.

Ціск кахання — радасны і горкі —
Гэта трэці цяжкі мой цяжар.
Вобраз любы ўспыхне яркай зоркай
І адразу знікне паміж хмар.

Голад жорсткі — ціск штодзённы звыклы —
Без нуды насіў я праз гады.
Час прыйшоў, калі пытанне ўзнікла:
Дзе прычына гэтае бяды?

Ціск вайны, калі палічым,— пяты.
Той цяжар быў звыш усякіх сіл.
Мы капалі земляныя спраты,
Быццам ямы для сваіх магіл.

Ціск сляпых блуканняў — гэта шосты.
Як у цемры шлях знайсці сумець?
З шостага ж так вынікаюць проста
Іншыя цяжары — жах і смерць.

Сем цяжараў на сабе нашу я.
Сем паклаж усклалі на мяне.
Ды палёгкі ў лёсу не прашу я,
Лёс такі нікога не міне.

Сем цяжараў налічыў... даволі?
А ці ўсе? Хто можа прасачыць?
Дык няўжо іх толькі сем — не болей?
Можа, іх так шмат, што не злічыць?

Вось яшчэ адзін з маіх цяжараў,
Нецярпенне, што душу пячэ:
Хай бы хто па ўсіх адразу ўдарыў,
Каб яны зваліліся з плячэй.

## СЛЁЗЫ АЙЧЫНЫ,
## ГОД 1937

I

Германія мая! Якой цябе зрабіць
Змаглі яны? Скажы! Вялікай? Ганаровай?
Краінай вольнай, дзе народ з душой здаровай
Здабыткі множыць, каб заўжды шчаслівым быць?

Ці помніш воклічы: «Германія ўстае!»?
О, колькі яны шчодрых абяцанняў мелі,
Як паланіць, спустошыць як цябе сумелі,
Без бою ўзяць цябе — рабаўнікі твае.

Тваё счарсцвела сэрца... Думкі — ці бываюць?
Што слова, то хлусня. Скажы: а праўда — дзе?
Хаваешся ў хлусні, ды справы выкрываюць.
Вунь з бізуном ужо шалёны кат ідзе.

Мяснік жывую кроў з сякеры выцірае —
О, колькі новых бед вядзе бяда старая.

II

О ты, магутны Бах! О, фугі і кантаты!
Пяшчотны Грунэвальд, што ў фарбах цуд тварыў!
О, Гёльдэрлінаў гімн, святочнасці парыў!
О, фарбы, слова, спеў! Як зганьбілі вас каты!

Няўжо не зруйнавалі здзекліва прыроды?
А рэкі — Пекар, Рэйн — цякуць, як і цяклі?
А што з мясцінамі, дзе змалку мы раслі?
Шварцвальду, Бодэнзэе не зрабілі шкоды?

Чацвёрты год ідзе, як жудасная навісь
Вісіць над немцамі. Ці хопіць нашых слёз,
Каб імі кроў тваю, Германія, змываць?!

Не трэба марных слёз! Няхай жыве нянавісць!
З'яднаем пашу злосць і перайначым лёс!
О, фарбы, слова, спеў!
Вам — ззяць, грымець і зваць!

**МАЦІ**

Там, дзе ў святы цешыцца народ,
Там, дзе моладзь водзіць карагод,

У царкве, дзе поп сівы пяе,
Дзе званочак голас падае,

На вяселлі, дзе ядуць і п'юць,
Дзе музыкі ў барабаны б'юць,—

Там і тут яна, ва ўсякі час
У адзенні чорным сярод нас.

Там, дзе ў доме гамана гучыць,
Есць яна, хоць і сама маўчыць.

Нават — дзе высочвае жандар,
У каго які сягоння твар,

І калі спалохана у сне
Селянін падскочыць і ікне,

А сялянка сонна паглядзіць,
А ці спіць дзіця... як ноч гудзіць!

Раніцай, калі туман сплыве
І спявае певень у хляве,—

Там і тут яна, ва ўсякі час
У адзенні чорным сярод нас.

Чорнае адзенне, сівізна —
Маці, як і ўсе, была яна.

Гэткім болем стыў яе пагляд,
Быццам сына мог вярнуць назад.

Як пакутна позірк той блукаў!
Пад Мадрыдам кулю сып спаткаў.

І яна ішла з двара у двор,
«А за што?» — гучаў нямы дакор.

І на плошчы нам у твар не раз
Пазірала: хто ёй дасць адказ?

І была ўжо ў думках не адна,
А між іншых — гэткіх, як яна.

Так усюды і ва ўсякі час
Маці ў чорным ходзіць сярод нас.

І шукала: дзе прычыннік зла?
І маўчала. Між людзей была.

## НА АГАРОДЖЫ НОВАБУДОЎЛІ КРЭСБРОНА (БОДЭНЗЭЕ) НАПІСАНА: «ДАВОЛІ!»

Даволі! Даволі! О слова — удар!
Даволі глыталі — пара адпляваціца!
Даволі маўчалі — пара адазвацца!
І кінуць свой крык, нібы выклік,— у твар!

Даволі, даволі ў запечку нямець,
Даволі, даволі баяцца шумець,
Даволі ні долі, ні волі не мець,
Даволі падтакваць толькі умець.

Даволі ўжо шэпту! Час выкрыкнуць: «Не!»
Даволі хлусні як табе, так і мне!
Праўды не чулі ніколі.
Сягоння і камень ужо не маўчыць.
У каменным рокаце ўладна гучыць:
Даволі!

## СМЕРЦЬ ГЁТЭ

Прыкрыты вочы шырмай ад святла.
Цудоўны сакавік! Цяпло праходзіць
Праз шыбіну. Дрыжыць... але ўзняла
Рука пяро нябачнае — і водзіць.

Паэт адлёгся ў крэсле. У паветры
Ён піша вострым пальцам, як пяром.
Мы слоў напісаных не разбяром.
Радкі вялізныя вядзе — на метры.

Працяжнік. Кропка. Нешта крэсліць, правіць.
Рука ніжэй. І слабне над радком.
Вось робіць націск, каб вякам не сцерці.

Падкрэслівае, потым клічнік ставіць.
Не, гэты сказ не прамільгне крадком.
Пісаў і паміраў — каб пішучы памерці.

**ЛЮТЭР**

I
Манах прыйшоў, прыбіў перад царквой
Дзевяноста пяць зваротаў на вароты.
А быў кірмаш. З узнятай галавой
Стаяў народ вакол, чытаў звароты.

Пра здраду веры, пра ілжэсвятых,
Пра сквапнасць тых, хто гэту веру творыць,—
Было напісана ў зваротах тых
Усё па-людску, як народ гаворыць.

З царквы зляцеў шалёны перазвон,
Чыгунны стогн упаў на сутарэнні.
Манах стаяў у плыні звону. Ён
З зямлёй злучыўся, нібы дуб карэннем.

Ён песню пеў, і голасам магутным
Вялікую вячэру ён ззываў,
Дзе роўна ўсім — багатым і пакутным —
Віно і хлеб даваў. Ён бунт спяваў.

II
І скаланулі чуткі Вітэнберг:
«Вялікі Бог паслаў да нас манаха,
Каб пакараць няпраўду, зло і грэх.
Манах ідзе ўжо Вітэнбергскім шляхам.

Нясе з сабою новае вучэнне:
Мы роўныя пад Богам — я і ты.
Не можа быць за выкуп ачышчэння.
Манах кляне магутны Рым святы.

Бо рой вялізны — служкі і ланы —
Аплёў так бога, што і не адбіцца.
Цяпер між імі ён нібы сляпы.
Святога ж слова і не чуюць быццам.

І трэба Бога вызваляць хутчэй
Ад тых святых — няма калі вагацца.

Пры вольным Богу будзе нам лягчэй
Супроць няпраўды — разам з ім — змагацца».

III
І вестуны панесліся ў дарогу,
Каб несці вестку ад зямлі к зямлі,
Што ёсць саюз на дапамогу Богу.
Адзін другому шэптам — і дайшлі

Да ўлад навіны хутка, а тады
Яны дайшлі да беднага народа,
Што зведаў досыць гора і бяды.
Цяпер чакалі божага прыходу.

IV
Рэйхстаг у Вормсе. Гляньце на героя:
Вось ён, манах, — нікчэмнасць, кропка, тло.
А ў зале — пазалота, рызы, зброя...
Ад позіркаў аж жудасна было.

У балахон суконны апрануты,
Які вяроўкаю падпаразаў,
Быў ён да столі позіркам прыкуты,
Глядзеў уверх, як Богу што казаў.

Стаяў адзін, палонены дрыгвой,
А ўжо страшыдла пашчу разяўляла,
Сядзела ў золаце, круціла галавой,
Смяялася і ў твар яму плявала.

Быў Рымскі папа — ненажэрны звер,
Хапаў, глытаў, і ўсё бывала мала.
Ён рай сабе стварыў ужо цяпер.
Дзяржавы ў кулаку трымаў трывала.

На манастырскі луг ішлі манашкі,
Там голыя ляжалі... любата!
Браты-манахі спаражнялі пляшкі,
Віно лілося ў прорву жывата...

Манах падцяўся. Выступіў на крок,

А за спіной як загудзела штосьці.
Убачыў дыбу. Вось твой лёс, прарок,
Пачуў, нібыта затрашчалі косці.

І туш зайграў. А кайзер: «Гавары!»
Сабраў ён волю, каб дапамагала.
А рэха адгукнулася: «Згары!»
З вачэй прысутных полымя шугала.

Сабраў ён волю. А яе далі
Яму палі і бедны люд пакутны.
І стала лёгка, сілы зноў прыйшлі,
І голас рос, ён быў на волі чутны.

Манах пачаў. Ён гаварыў як мог.
Пераступіў праз здзеклівыя кпіны.
І ён сказаў: «Так. Ёсць у мяне Бог —
Бог беднякоў і слабых. Ён — адзіны».

На крэсле залатым сядзеў той звер,
Што Бога праглынуў, бясчулы камень.
Манах крычаў: «О Божа мой, павер,
Я не магу інакш, дай рады, аман».

V

Тады князі сабраліся на сход,
Парадзіліся: «Мы манаха схопім.
Але ж тады падымецца народ,
І мы загінем, мы сябе патопім.

Таму манашку трэба месца даць,
З ім абыходзіцца, як з важным панам,
Што нельга прымусова загадаць,
Бывае, дасягаецца падманам.

І вера прадаецца... Не бяда...
Мы веру зменім, калі так захоча.
Як скалы точыць кроплямі вада,
Так слава і хвала душу падточаць».

VI

Цяпер ён Біблію перакладаў
І, па-нямецку пішучы яе,
Ёй гэткай ваяўнічасці надаў,
Што ў словах нібы кананада б'е.

Прыходзілі князі. Ён іх трымаў
Спачатку ў пачакальні — быў заняты.
Пасля хвалу за мудры твор прымаў,
Прымаў паклоны — у палон узяты.

Падносіў келіх. Быў гаспадаром.
Ён падымаў укленчаных з падлогі.
Князі кляліся перад алтаром
Да новай веры пракладаць дарогі.

Па хрысціянстве гэты быў удар!
Звон алілуя над зямлёю ліўся.
Больш над краінай папа — не ўладар!
Але калі манах развесяліўся,

То нешта пачало яму здавацца:
Хтось позіркам няўмольным свідраваў.
Хацелася заплюшчыцца, схавацца.
А той ніяк спакою не даваў.

VII
Сялянская ўзнялася грамада.
Над галавой — сякеры, вілы, косы.
«Манах і веру і сябе прадаў!» —
Хадзіў па вёсках покліч шматгалосы.

«Ён здрадзіў справе, вечнай і святой,
Разбэшчаны хвалою і багаццем,
З валлём набітым, а душой — пустой,
Ён дадзеную намі сілу страціў...

Наліць спяшае келіх дапаўна
Крывёй сялянскаю князям. Вякі
Сачылася крыніцаю яна.
О горкі келіх! О цяжкі які!»

VIII
Ён вушы затыкаў сабе — дарма!
Той голас далятаў праз перашкоды:
«Цяпер ты наш, і літасці няма.
Ты мусіш стаць перад судом народа.

Я — певень, той чырвоны, што пяе
Чырвоным спевам у князёў над дахам.
Я — певень, той, што здраднікаў дзяўбе...
Прыйшла расплата на цябе, манаха.

Я — помсты меч. За здраджаных сяброў
Я выцягну з цябе твае вантробы.
Я выпушчу мярзотніку») кроў,
Каб вылечыць ад здрадніцкай хваробы.

Я — меч і певень. Хочаш — паглядзі,
Як весела мой вывадак гуляе.
Ці востры меч? Ледзь пальцам правядзі —
Імгненна ад сумненняў вызваляе.

Князі памруць. За імі следам — ты.
Я вырву карані — псавацца сталі.
І спеў мой збавіць свет ад нематы,
Як слуп агню, я асвятляю далі.

Я жорстка б'ю. Лязу не затупіцца
У сечы справядлівай, што карае.
Мой кожны ўзмах як посвірк бліскавіцы.
Служу народу. Ён не памірае».

Як быццам сілу у яго забралі.
То зыркне меч, то чуеш пеўнеў спеў.
Яны з'яўляліся і заміралі.
Ён зразумеў, што судны дзень наспеў.

IX
Так уцякач штораз назад зірне
І зноў бяжыць, і дрыжыкі ў каленях.
Крык «рукі ўгору!» ззаду сцебане,
Ён крокі чуе, і мільгаюць цені.

З усіх бакоў, нібы ваўка, акружаць.
Яшчэ раз цудам кола разарве.
Убачыць лес — вось бы дабегчы, здужаць,
Ды раптам хатка, і дымок плыве.

Хутчэй схавацца, захінуцца нечым,
Прыцішыцца, каб шахі перажыць.
Ды ў цішыні пачуе: нехта шэпча,
І з крыкам ён са сховішча бяжыць...

Вось і манах наш — уцякач такі.
Чарніліцу трымае і пяро.
Ды пляшка вырываецца з рукі,
І пляма на сцяне плыве, як кроў.

Заве князёў: «Шаноўныя, вы дзе?
Да вас звяртаюся, высакародных.
Вунь д'ябал хеўру грэшнікаў вядзе,
Ён падбівае бедных і галодных.

Стаў Томас Мюнцэр нейкі на чале
Гвалтаўнікоў і перакатнай голі.
Цытуе словы ён мае, але
Я ж не вучыў такому аніколі.

Яны дзяржаву хочуць утварыць
На тысячы гадоў, а ўсё старое сцерці.
«Мы — роўныя...» Не грэшна гаварыць?
Іх трэба біць, паліць агнём да смерці.

Дык біце ж іх! Паліце... ноччу... днём...
Здзірайце скуру з кожнага жывога.
Бог літасцівы. Гэты суд агнём —
Знак вашай чысціні для пана Бога».

X

Павісла над Германіяй пятля.
Гайдаліся ў паветры мерцвякі
З адкрытымі вачамі. Ім зямля
Была відна цяпер на ўсе бакі.

Гайдаў іх вецер і круціў вяроўку
Туды-сюды. Збялелы твар няўзнак
Мільгаў святлом і зацямняўся зноўку —
Так сярод ночы бліскае маяк.

І зеўраў рот, што быў без языка.
Язык быў вырваны. Крык урастаў
Замест яго у роце ў мерцвяка.
Той рот крычаў, зубамі скрыгатаў.

XI
Атрад паўстанцаў выслізнуць паспеў
З варожай пасткі, з лап звярынай зграі.
Разбегліся па хатах. Толькі спеў
Гучаў, як памяць: «Вось я паміраю...»

Адзін жа з іх у горад выбраў шлях.
Ён сцяг, прапахлы порахам, з сабой
Панёс, схаваны. Гэты дымны сцяг
Ён з пікі зняў, калі прайгралі бой.

Да сэрца прытуліў у цяжкую пару
Той сцяг гарачы, нібы помсты меру.
«Гары, наш сцяг, і запалі зару!
І дай нам дзень — Іў чалавека веру!»

XII
Прыйшоў у горад ён, знайшоў занятак,
Сустрэў таварыша, падаўся ў кавалі.
Каваў жалеза дзён сваіх астатак.
Сябры і сцяг у кузні збераглі.

## ЗАСТОЛЬНАЯ ПЕСНЯ

Мы моўчкі пілі «Цынандалі» —
Дарунак грузінскай зямлі.
Германію прыпаміналі,
Душою мы з ёю былі.

Нам бачыліся лугавыя
Прасторы ля Майна-ракі.
Махалі, нібы яшвыя,
Ля Штральзунда нам ветракі.

Туга панавала ў застоллі.
Замкнуліся шчыльна раты.
Ці дачакаешся волі
Нарэшце, Германія, ты?

Ад светлай надзеі хмялелі,
Што хутка мы ўбачым цябе.
Мы добра цяпер зразумелі,
Як жыць без радзімы ў журбе.

Запелі. Самотнасць павольна
Знікала. Спявалі палі.
Мы славілі песняй застольнай
Дарунак грузінскай зямлі.

Мы славілі гэту краіну,
Дзе вольна людзі жылі,
Дзе ў цяжкую, злую гадзіну
Сабе мы радзіму знайшлі.

Пад ветрам прыціхлым, пяшчотным
Спаў зорны сусвет давідна.
За тых, хто пайшоў незваротна,
Браты мае, вып'ем да дна!

Здалося нам: зор зіхатлівых
У чарку сыпнуў чарадзей.
Дык вып'ем віно — за шчаслівых,
За будучых вольных людзей!

## НА ГЭТАЙ МОВЕ

На гэтай мове маці мне спявала
Пяшчотна песню-казку перад сном.
Мне гэта мова сілы дадавала,
Была ў няволі добрым вестуном.

На гэтай мове я рашыўся скласці
Хвалу каханню, марам і вясне.
Мне гэта мова не давала ўпасці,
Усмешкай падбадзёрвала мяне.

Няхай памру — з табой на гэтай мове,
Германія, дазволь мне гаварыць.
Я твой заўжды — на справе і на слове.
Хай сонца ясна над табой гарыць.

Напішуць па-нямецку над магілай:
«Ён быў з народам, жыў ягонай сілай».

## РАЗВІТАННЕ,
## АБО СВЕТЛЫ СПЕЎ

Пералічу ўсе страты паслядоўна,
Палову дзён адмінусуйце мне.
О, колькі не знайшоў я слоў цудоўных!
О, колькі здзейсніў подзвігаў — у сне!

О, колькі кніжак добрых не чытана!
О, колькі не напісана свайго!
Усё, што я прыдбаў і маю,— танна,
Апроч жадання, толькі аднаго:

Апошні раз устаць яшчэ да сонца,
Апошні раз руку сабе падаць,
Каб развітацца і пайсці ў бясконцасць...

Так я любіў краіны пакідаць —
Паўсюды там, дзе я пабыць паспеў,
IIа адыход гучаў мой светлы спеў.

**АЎТАПАРТРЭТ - 1938**

Хадой цяжкой, сялянскаю — такой,
Якой з касой або за плугам пнуцца,
Ад успамінаў, ад пакут цяжкой —
Ступаю цвёрда, каб не спатыкнуцца.

І цягнецца шлейф цемры за спіной,
Як цень, па пятах... і няма адбою.
Спынюся здзіўлена перад сабою
І радасна адзначу: ты са мной.

Гаротнай зморай скуты, пастаю.
Хада мяне далёкая стаміла.
Не ведаю, праз крок ці не ўпаду.

Перамагу сябе, збяру ўсю сілу.
Хоць долю і не ведаю сваю,
Хадою сейбіта далей іду.

**НАЙБОЛЬШЫ БОЛЬ**

I

Найбольшы боль не той, што вораг мне
Прычыніць. Вораг не пытае згоды.
Так! Ён табе жадае толькі шкоды.
Аднак праз боль і радасць зазірне:

«Нашчадкі боль мой знішчаць падчыстую!
Нашчадкі помсту прынясуць святую!
Я й смерць спаткаю з думкай: перамог!»
Нам гартавацца боль той дапамог.

Найбольшы боль... ён не такі зусім.
Шчаслівы той, хто незнаёмы з ім,
Калі сябры, надзея пакалення,

Замест падтрымкі недаверам дораць,
З пагардай пра паэзію гавораць —
Тады трымайся за сваё сумленне!

II

Ты, што дзяліла гэты боль са мной,—
Я быў з табой затоена маўклівы,
Кахаў цябе я ў горычы шчымлівай,
Аддзелены маўчаннем, як сцяной.

Былі сябры разносчыкамі болю,
Душа мая раздвоена жыла —
То ў марах бегла ўдалячынь на волю,
А то самота зноў яе гняла.

Калісьці думаў: што мне пагражае?
Я ўсе пакуты зведаў да адной.
Цяпер і смерць нікольki не пужае.

Ды боль прыйшоў — горш смерці і бяды...
А ты мяне кахала і тады,
Ты, што дзяліла гэты боль са мной.

III

Цябе, мой верш, заву: дапамажы
Жахлівы боль душы пераадолець.
Ты ж гэта можаш! Вострыя нажы
Душу мне паласуюць, рэжуць, колюць.

Крывавяць раны, іх агнём пячэ,
А я супроць пакут бездапаможны.
Няўжо іх мала зведана яшчэ?
Наклікаў новых сам, неасцярожны.

Калі ў прадонне трэба ўпасці перш,
Каб к новаму жыццю адтуль узняцца,
Да тых вяршынь, якія і не сняцца,—

Тады стрываць найбольшы боль гатовы.
Цябе, мой верш, заву! Бо толькі верш
Ад болю ведае найлепшыя замовы.

**ПАДАННЕ**

Паданне так расказвае: паэт
На бой спазніўся, не прымаў удзелу.
Ён узіраўся некуды ў сусвет
І быў далёка — і душой і целам.

А на зямлі дайшло да перадзелу.
Паэт сказаў — ён не прымаў удзелу:
«І я ж прасіў кавалачак надзелу!»
Усё. Спазніўся. Не даюць нясмелым.

Паданне кажа: зноў пачаўся бой.
Дзялілі свет. Паэт не запазніўся.
Улез у бойку і наперад зваў.

З народам быў, у ладзе сам з сабой
За дзень той біўся, што заўсёды сніўся.
Ён новае жыццё заваяваў.

## ПЕСНЯ АБ ЗМЕНАХ

Новы дзень нясе свае
Радасці і гора.
Сёння і гадзіннік б'е
Інакш, чым учора.

Нашы клопаты растуць —
Што ні дзень, то болей.
Іншым колерам цвітуць
Нават кветкі ў полі.

Я іду інакш назад
Пасля развітання.
Шле мне следам твой пагляд,
Іншыя пытанні.

Мо адбыўся з намі цуд,
Што не тыя сталі?
Змены, змены — там і тут,
Як павырасталі.

Хмеліць нас інакш віно.
Хто нас падганяе?
Цэлы свет ужо даўно
Сам сябе змяняе.

Нават повязі з былым
Час ірве адчайна.
Больш не хоча быць малым
Чалавек звычайны.

## ВЫСОКІЯ ЗБУДОВЫ

Я рыфмы складаю. Я вершы будую.
Сталёвым рытмам мацую радкі.
За фразаю фразу зруб свой вяду я
Пад неба будучыні — на вякі.

Вы — заснавальнікі! Першапраходцы!
Дойлідства слаўныя правадыры!
Вітаю збудовы велічнай моцы —
Саборы, палацы, манастыры!

Я вершы будую. Я думкі мурую.
Страфу падымаю, што стане сцяной.
З радкоў гэтых кроквы, абсады змайструю
І вокны адкрыю сонцу вясной!

Падайце свой голас — суладна ўсе чыста,
Стратэгі мелодый і гукаў майстры!
Над аркаю хору ваш крок урачысты
Чуцён нам, сімфоніі уладары!

Я вершы будую. Без рэйкі і шнура
Мушу размераць усё, разлічыць.
Я вершы будую. У часе віхурным
Збудова мая, нібы гімн, загучыць.

Вітаю навуку, што веру давала:
Усё суразмерна — і неба, і дно.
Што нас будавала... Народы пазвала
Да новай збудовы — у царства адно.

**ПРАДВЕСНЕ**

Яшчэ сняжынкі карагодзяць,
Яшчэ узоры на акне
Марозік раніцай выводзіць…
А я сумую па вясне.

Няўжо яна з-за агароджы,
Прыціхлая, на свет глядзіць?
Гукну я голасна — і, можа,
Вясну сумею разбудзіць.

Блакітным досвіткам з табою
Мы выйдзем у маўклівы гай.
Вясну сустрэнем і за ёю
Мы пойдзем у нязнаны край.

Як добра жыць на белым свеце!
Вясёлы спеў удаль плыве.
У першым яблыневым цвеце
Яшчэ апошні снег жыве.

## ЛІЛІ

Ты, як маяк, сабой
Дарогі мне асвяціла.
Мяне без цябе б скруціла
Цемра, труціла б журбой.

Ты побач ішла і ход
Крокаў маіх паскарала,
Ты ў песню ператварала
Прозу маіх нягод.

Ты мне дапамагла
Веліч адкрыць зямную.
Хмельны табой, сягнуў я
Да творчасці, да святла.

Усё, што я маю ці меў,
Ты мне падаравала,
Ты покрыва змроку зрывала,
Калі я нічога не ўмеў.

З кожнаю думкай спяшыць
Я да цябе быў рады.
Мне без тваёй парады
Нічога б не завяршыць.

Шапчу тваё імя сабе,
Клічу, заву начамі,
Буду шукаць вачамі,
Канаючы, толькі цябе.

## ЛЯЖАЦЬ КАЛЯ ДАРОГІ

Ляжаць на жываце — на мураве
Ля сцежкі — слухаць, як рыпяць калёсы,
Глядзець, як з коміна дымок плыве,
Цяля хвастом матляе каля носа.

Што можа быць цудоўней, чым ляжаць
Каля дарогі! Сутнасць наваколля
Цячэ цераз цябе... сціраецца мяжа —
Цяпер ты сам — і лес, і луг, і поле.

Ізноў я дома. Змрочная імжа
Змагла непазнавальна дом змяніць.
Маўчыць званок... ці пераела ржа,
Ці не пазнаў — чаму ён не звініць?

Ізноў я дома. Ды чамусьці мне
Бадзянні мрояцца па чужыне.

## **СЫН**

…Гляньце: ў сыне маладым
Ёсць сёння тое, чым я сам валодаў…
*Шэкспір, Санет II*

I
Я адыду. Душа мяне пакіне,
Цяплом зямным нагрэтая ў запас.
Ты ж застанешся. Праз цябе, мой сыне,
Мяне кране аддалены твой час.

У сыне вопыт бацькі не загіне.
Ты зведаеш нянавісць — і не раз.
Я за табой па новай каляіне
Паехаць рады — ў новы час, да вас.

Ты шчаслівейшы: крочыш па зямлі,
Пачаўшы там, дзе я свой шлях вяршу,
Што пачынаўся з цемры і няволі

І да сярэдзіны вярэдзіў мне душу.
Мае шляхі цяжэйшыя былі,
Але з цябе запатрабуюць болей.

II
Гульню баюся пачынаць нанова.
Цябе я пазбягаю, хоць люблю.
Не біў ніколі, ні благога слова
Сабе не дазваляў. Як уяўлю,

Што дзень надыдзе жудаўны, калі
Мяне ты папракнеш на развітанне,
Што дні твае пакутныя былі,
Як некалі мае — балюча стане.

Цябе я пазбягаю… Не пазбегчы…
Надыдзе дзень — не заўтра, дык пасля,
Калі мне, бацьку, скажаш пры сустрэчы:
«А ты са мной ніколі не гуляў…»

І глянеш строга мне ў душу, да дна:
«Я — сын твой родны. Дзе мая віна?»

## ПАРТЫЯ

Каб выказаць за ўсё табе падзяку,
Мне пэўны час патрэбны быў: на плечы
Мне цяжкі лёс цяжар усклаў, каб вечна
Я адчуваў тваё плячо... Заўсёды,
Калі мне вочы засціла ў адчай
І ў незваротнасць зацягнуць хацеў,
Ты мне давала знак — перада мной
Ляжаў той кран, куды я прагнуў трапіць.
Ты там расла, дабру давала рост,
І сам я, зросшыся з табой навек,
Уверх цягнуўся прагна да святла,
Ускормлены тваёю сілай... Ты —
Хоць я імя твайго не гавару —
Мая Айчына і мая Радзіма.
Пустым змарнелым гукам без цябе
Былі б два словы тыя... на карысць
Служылі б тым, хто лёгка можа здрадзіць,
Хто робіць справу чорную сваю
Пад покрывам надзейным слоў высокіх...
Калі раней я памыляцца мог,
Што справа зроблена, калі прыняў рашэнне,
То гэта далучэнне да цябе
Было — пачатак, цяжкі узыход
І рост, якога ты патрабавала:
Каб я ствараў сябе, душу змяняў,
Каб адракаўся ад таго, што меў.
Хоць ненавідзеў тло і гніль, але
Я часта паддаваўся іхняй сіле,
Што вабіла... Змагаючыся з ёю,
Перамагаў сябе і стаў тваім...
Хоць я і спрабаваў, але не здолеў
Стварыць твой вобраз, велічны, праўдзівы,
І слоў магутных не знайшоў, і песню,
Якой ты варта, я не склаў пакуль што.
Баюся я недасканалай песняй
Табе пашкодзіць... Векавечны бор,
Краса якога людзям відавочна,
Не стане горшы ад таго, што нехта
Яго зняславіць у бяздарным творы,—

Уся незадаволенасць людзей
Супроць паэта звернецца, які
Красу прынізіў дрэннымі радкамі.
Цябе ж, заўжды акружаную злосным
Ілжывым ворагам, патрэбна апяваць
Таленавіта — бо не на паэта
Скіруюцца варожыя удары,
Што дрэнна пеў, а на цябе і ты
Зняслаўлена для легкаверных будзеш.
Есць сіла ў дасканаласці. Яна
Зласлівых прымушае замаўчаць.
Зачаста называць цябе баюся.
Найлепшае здзяйсняецца не лёгка.
Хай іншыя наўцёкі без аглядкі
Бягуць ад набалелага, няхай
Пейзажам нас чаруюць і настрой
Выпісваюць свой вытанчана, з густам,
Знаходзячы драбнейшыя пачуцці
У схованках душы,— і мой напеў
Кахання не мінае; курганы
Плывуць у ім, смяюцца васількі,
Снапы па полі, канюшына... Лес,
Убраны зоркавай каронай, спіць —
Але у вершы ёсць і чалавек —
Складаны, незавершаны, жывы,
З зігзагамі пачуццяў: і ў адчаі,
І ў яснасці намераў; то герой,
То несчаслівец ён — адбітак часу.
Усё гэта павінен, каб адрынуць
Наліплае з сябе, паэт без страху
У твор свой браць і да цябе данесці —
Бяры, кіруй! А ворагам з таго,
Што свет стварыў, ні кроплі не аддай:
Ні велічы, ні страсці, ні красы!
Усім валодай і рабі адбор!
Ты вырві, выкарчоўвай тое, што
Пракляцця варта! Годнае ж вышэй
Ты падымі і людзям пакажы!
Ты падымі і горда узвяліч
Усё, што нас, людзей, узвелічае:
Людскую прыгажосць у гуках, фарбах,

Збудовах, думках, тое, што ў радках
Паэтавых — бадзёра ці ў журбе —
Гучыць нястомна... Вось які
Я, твой паэт. Тваю памножыць славу
Мне хочацца і зберагчы твой гонар
Ад ганьбы, ад халтуршчыка-няўмекі.
Ты школай мне была, дзе я вучыўся
Ужо дарослы; ты давала ўрок
З адказам на пытанне, як знайсці
Таемны сэнс, як можна разгадаць
Загадку, што берагла ў сабе
Надзея-мара... А цяпер пара
Аддзячыць за багатыя дарункі.
Ці на карысць пайшла твая навука?
Калі пахваліш — гонар мне, калі
Прызнаеш ты, што і мая ёсць доля
У слаўнай перамозе — мне здаецца,
Што будучыня лёс мой апраўдала.
Ва ўсім багацці пакажу табе
Чароўны свет, пачну ізноў старанна
Твой вобраз апяваць, і з новай сілай
Я пакажу ахвяры і герояў,
Якія ўсе азораны былі
Адзінай воляй. За табой ідуць,
Каб здзейсніць волю змагара-народа.

**МАСКВА**

З усіх вядомых слаўных гарадоў
Масква — сучасны ідэал сталіцы.
Яе не змераць плошчай забудоў.
Хто абазначыць, дзе яе граніцы?

Нястомна патрабуе, каб усе
Сябе — былых — перарасталі смела.
Хай ля парога кожны абтрасе
Усё з душы, што ў тле запарахнела.

З усіх вядомых слаўных гарадоў
Масква — узор бязмежнага імкнення.
На новы лад яна цяпер жыве.

Трывалы мур яе! Бо ад дзядоў
Ідзе любоў да працы ў пакаленні.
Хвалу спявае цэлы свет Маскве!

## ЧЫТАЧ

*Па дарозе ў Перадзелкіна*

Ён кніжку разгарнуў і на пероне
Гартаў маўклівую, як што пытаў.
Панёс яе і ў здзіўленым палоне
Сеў у цягнік. Каля святла чытаў.

Душа спявае ў вершаваным звоне,
Твар засвяціўся і натхнёны стаў.
Гайдаюць рытмы. Ён плыве ў вагоне,
Так цераз верш імчыць яго састаў.

Яшчэ ў вачах агонь не адпалаў,
Ды позірк за акно перабягае,
Дае і кніжцы, і душы спакой.

Паміж старонак ён руку заклаў,
Здаецца, што сабе дапамагае
Ён прачытанае ўтрымаць рукой.

**АДЛІГА**

І дождж і сонца! Як праз слёзы смех!
Нам дождджык вочы прасвятліў, здаецца.
Мы са здзіўленнем пазіралі ўверх.
Са стрэх усіх насустрач ззянне льецца.

Што за надвор'е! Дзіўная пара!
Вада напоўніла выбоіны ў асфальце.
Гэй, насцеж вокны! Дождж нібы з вядра!
Вітайце ж россып залаты, вітайце!

Яшчэ маўчыць крынічны срэбны звон,
Бо разняволіць лёд яго не хоча.
Растане хутка лёд, пакуль што ён
Вясновых зайчыкаў пускае ў вочы.

Мароз на вокнах казачны узор
Намаляваў, ды чэзне казка тая...
Мы бачым, як знікае гэты твор,
А луг жывой вясёлкай расцвітае.

Імкне ручай празрысты праз ільды,
Звісае дождж гірляндай каляровай,
І горад, срэбна-белы, малады,
Пераліваецца, нібыта крышталёвы.

Пляскоча дождж, а ў ім чутна струна
Абуджаных ад зімніх сноў фантанаў...
Ці гэта свет, шчасліва апантаны,
Слязьмі заліўся: «Глянь, ідзе вясна!»

## ЧАРОЎНЫ ЛЕС

*Перадзелкіна*

На лыжах еду па гатовым следзе
Праз белы лес, што дрэмле ў цішыні.
Бягу за некім... След знікае недзе,
Ні лыжнікаў не бачу, ні лыжні.

Цяпер вяду ледзь бачныя баразны —
Першапраходца на мацерыку.
І да мяне хінецца лес марозны,
Гушчар збялелы гладзіць мне руку.

Магутны бор нябёсы падпірае,
Схаваны ў снежны вэлюм з галавой.
Гукаю ў лес, ды голас замірае,
Сплывае ў цішы хваляй нежывой.

А сонца ззяе, хоць яшчэ не можа
Адолець сілу зімняй варажбы,
Ды абяцае: хутка развarожыць
Ад сонных чараў сосны і дубы.

Бязмежны час і шлях мой — спараваны...
Бягу дамоў, і мне спявае снег:
Чароўны лес... і ты зачараваны,
У ім здзяйсняеш казачны прабег.

Мне праз мароз чутны вясны напевы,
Птушыны грай, што на зіму заціх.
Галінкі ад няўлоўнага павеву
Скідаюць снег, выпростваюцца ўміг.

## ПАДЗЯКА СЯБРАМ У СССР

А вы мяне, як брата, прывіталі,
Зрабілі ўсё, каб і далей мой верш
Застаўся жыць. Тады мяне тапталі
Пасланцы цемры. Дзякуй вам найперш,

Што вы пераканалі: «Ты жывеш!»
Калі ў мяне з'яўляцца творы сталі,
Дзе я імкнуўся стаць вышэй і лепш,—
У кожны з іх вы плоццю паўрасталі.

Хачу найперш падзяку перадаць
За права на пакуты і тугу
Без пыхі гордае ў нядобры час.

Майго народа боль апёк і вас.
Аддзякаваць за ўсё вам ці змагу?
Народ аддзячыць за мяне, відаць.

**БЕЖАНКА МАЦІ**

«Не ведаю, ці прымеце мяне…
Я тут чужая… у нязнаным краі…
У гэтым скрутку?.. Зброя?.. Што вы… не…
Маё багацце, пан… Усё, што маю.

Было вось так… Як вымерла сяло…
Мужчыны ўсе на фронце… Мы ды дзеці…
З-за Эбра, пан, страшэнна загуло.
Мы беглі ратавацца ў белым свеце.

Ні крошкі хлеба… Голад дзень пры дні…
І вось яны… з-пад неба, як навала.
Адзін нырнуў так нізка з вышыні…
Ніхто не войкнуў… Што з дзіцяткам стала?

Дарога раптам знікла, паплыла
У прорву… ў стынь… Гара пашкадавала
Мяне… схавала… смерць ізноў ішла…
Гара заплакала… і ўратавала.

Не знаю, што сюды мяне вяло…
Ці можна ў вас дзіцятка пахаваці?
Прабачце, пан… Вось так усё было…
І мёртвых трэба… трэба ратаваць..»

**ЗНОЎ**

Зноў назад вярнуцца ў маладосць,
Слухаць вецер у прыціхлым садзе,
Зноў адчуць наяве, што мы ёсць,
Зноў чытаць «кахаю» у паглядзе.

Зноў упэўніцца і знаць: я — твой,
Нам цяпер няма чаго баяцца.
Есць адно жаданне — дачакацца,
Каб прыйшлі свабода і спакой.

Зноў па людным вуліцы ісці,
Зноў каля багатых магазінаў
Разглядаць, як некалі, вітрыны,

На кірмаш стракаты забрысці
І ля каруселяў, як ні дзіўна,
Зноў цябе, каханая, знайсці.

## БАЛАДА ПРА ТРАІХ

Афіцэр загадаў: «Закапаць юду!»
Рускі сказаў упарта: «Не буду!»

Тады самога паставілі ў яму.
«Не буду!» — сказаў яўрэй гэтаксама.

«Абодвух у яму! Менш будзе бруду!»
Тут немец выходзіць і кажа: «Не буду!»

«Да гэтых дваіх пастаўце прыблуду!
Сапраўдны немец не скажа: «Не буду!»

Немцы і немца звалілі у груду...

## ДЗІЦЯЧЫЯ ТУФЕЛЬКІ З ЛЮБЛІНА

З усіх, хто сведкам быў у зале,
Забыць я гэтых не магу.
І нават суддзі паўставалі,
У зале ўбачыўшы чаргу.

І зала, гледзячы, маўчала,
Як пары ўнізе ўсё ішлі.
Здалося, песня загучала,
Што дзеці сцішана вялі.

Цягнуўся праз пакой судовы
Стракаты доўгі карагод,
Знямелі ўсе: такі суровы
Быў гэты спеў і гэты ход.

Спачатку парачкі малютак,
Яшчэ не ўмеючы ішлі —
Умее плакаць і абутак,—
Хто бачыў гэткі ход калі!

Вунь парачка ў зацішным месцы
Зняможана сышла набок.
І зноў плыве нямое шэсце,
Дзіцячых туфелек паток.

Як весела калісьці ножкі
Любілі ў туфельках ступаць.
Гулялі з кутасамі крошкі,
Без іх не кладіся і спаць.

Вунь з аксаміту, а вунь з шоўку,
І вышываная была:
Што за квяцістая абноўка,
Як да вясельнага стала!

А вунь і з бантамі са стужак,
На спражках — розныя былі.
Праз навальніцы і праз сцюжу

Яны, маленькія, прайшлі.

Мне бачыцца: ля магазіна
Матуля з дзіцем на руках:
«Глянь, мама, як прыгожа, дзіўна...
Глянь, туфелькі якія... ах!»

«Каб мець за што, мы б іх прыдбалі.
Дарма ж, дачушка, не дадуць...»
А вось драўляныя сандалі
Зняможана зусім ідуць.

Яны вядуць панчошку — плача...
Яе ўжо хтось парваць паспеў.
Хто гэта шэсце растлумачыць?
Што значыць той далёкі спеў?

Смяюцца туфелькі, галосяць...
Вось, нібы ў казачным чаўне,
Вандруе лялечка ў галошы,
Міргае: бачылі мяне?

Вось пара з хлопчыка-падлетка,
Дарослая амаль, пабач.
Футбол ганяла, неўзаметку
Забіць умела спрытна мяч.

Не ў пары — боцік у трывозе:
Ён спадарожніка згубіў.
Відаць, замерз той па дарозе,
Бо снег такі глыбокі быў.

Вось пара, збітая дарэшты,
Яе ўжо нельга і насіць.
Няўжо карціць сказаць ёй нешта?
Што хоча, бедная, прасіць?

О вы, гаротныя сіроты,
З якой прыйшлі вы стараны?
А як без туфелькаў, без ботаў
Малыя ножкі — дзе яны?

Суддзя адкажа на пытанні,
Набатна лічбы загудуць.
...Дзіцячы хор жывы не стане...
А сведкі ў залу ўсё ідуць...

Фашыстаў выгналі, разбілі,
Але застаўся іхні склад...
А з дзецьмі што яны зрабілі?
Пра гэта туфелек даклад:

«У таварняк нас пагрузілі
І па чыгунцы павязлі.
Так нас у цемры і вазілі,
Так і сюды мы прыбылі».

Сабралі аж з усяго свету
Абутак, што згадзіцца мог.
Пакуль даставілі да мэты,
Ужо шмат хто валіўся з ног.

Прасіла маці: «Мы гаруем
У холадзе і без яды...
Дазвольце суп які звару ім...»
Ахоўнік ёй сказаў тады:

«Не бойцеся, мы вас сагрэем...»
Стаяў сабака побач з ім.
«У нас ніхто не акалее...»
Да неба віўся едкі дым.

«Мы вам цяпла не пашкадуем,
Падкінем паліва яшчэ...
Я Люблін вам рэкамендую:
Тут вечна сонейка пячэ».

Нас цёця-немка называла
Святымі лялькамі. Яна
Усіх дзяцей паразувала
У лагеры — сама, адна.

Казала нам: «Не плачце, дзеці,

Вы слёзкі вытрыце з вачэй.
Вам хутка сонейка засвеціць,
А басаནож ісці лягчэй».

Устаньце ж, дзеткі, цёця просіць,
Яна вас хоча палічыць.
Вам сонца хопіць аж задосыць,
Калі на ўсю яго ўключыць...

Ну, што вы плачаце, дурноцце!
Вам, лялькі, я не зычу зла.
Я — ваша фея, ваша цёця,
З нямецкай казкі к вам прыйшла.

Цяпер пара на пастраенне!
Пад песню, лялькі,— раз, два, тры!
Не трэба падаць на калені.
О, сонца Любліна, гары!

Ідзе з нямецкай песняй цёця,
Вядзе нас сонейкам лячыць.
Каля ўваходу кажа: «Стойце!» —
Каб нас яшчэ раз палічыць.

Там дзеці сотнямі згаралі.
Там дым і крык шугалі ўверх.
Абутак нелюдзі збіралі
І слалі у нямецкі рэйх.

Відаць, гешэфт смяротны весці
Даходна ў Любліне было.
Калоны вязняў, чэргі, шэсці...
І сонца — іхняе — пякло...

Калі на помсту нежывыя
Падымуцца за здзек і кроў
І цень Германію накрые —
І пойдуць туфелькі ізноў,

Бясконцаю калонай пойдуць
Ахвяры жудаснай вайны,

Заклятых катаў гэтых знойдуць,
Дзе б ні хаваліся яны.

Нячутна завітаць сумеюць
У кожны дом, у кожны двор.
Забойцы ў жаху анямеюць,
Адчуўшы блізкі прыгавор.

Заззяе сонца шар гарачы.
Ад свету праўды не схаваць.
Ці чуеце вы плач дзіцячы?
Смяротны спеў вам — ці чуваць?

Замах забойцаў відавочны.
Злачынныя відаць сляды.
Сніць буду сведак тых штоночы —
Дзіцячых туфелек сляды.

## Я - НЕМЕЦ

I
Я — немец. Хай ворагі ў мяне
На грамадзянства адбіраюць права.
Не адбяруць яны яго, о не!
Я ведаю: адродзіцца дзяржава

І запытае: «Хто пакуты множыў
Майго народа ў шматпакутны час?»
І сам народ нямецкі дапаможа
Рашыць, хто немец, а хто не між нас.

Я ўкараніўся ў дол маёй краіны,
Тут мне расці, нястрымна тут буяць.
Узор мой — дуб над горнаю цяснінай,
Які знаходзіць сілу устаяць

І рвацца на прастору, да святла...
Закованы ў кару, як у браню,
Ён сам стаіць магутны, як скала,
Вяршалінай трымае вышыню.

Я — немец. Хай ворагі ў мяне
На грамадзянства адбіраюць права.
Традыцыі бацькоў маіх і слава
Шаленству цвёрда адмаўляюць: не!

Я ведаю: прачнецца мой народ —
А дуб узняўся над вяршыняй гор,
Уплёўся веццем у стагоддзяў ход,
Ён будучыню кронаю падпёр.

II
Я — немец. Немцам нарадзіўся, рос
У горадзе ў краі паўднёвым гэтым.
Так, немец я. Мянеаднойчы лёс
Абраў, каб я нямецкім быў паэтам.

І я з Германіяй адбедаваў
Бядой яе. Я горам быў спавіты.

«Без пыхі жыць!» — сабе наказ даваў.
Народ мой сціплы быў і працавіты.
Я ганарыўся нацыяй маёй,
Дабро народа спадзяваўся множыць,
Любіў я мову родную — у ёй
Шукаў высокі сэнс, бязмежнасць, гожасць.

Вар'яцкі закружыўся карагод
Тых недамеркаў, што аб сіле марацъ.
«Скарыцца мусіць нам любы народ!
Нямецкі дух павінен уладарыць!»

Чужы мне быў нямецкі дух такі,
І ад яго рашыў я адцурацца.
То быў забойчы дух, і не з рукі
Было мне, немцу, браць яго ў дарадцы.

Я — немец. Ды сапраўдным немцам быць
Не азначае — жахі несці свету.
Нямеччыну ад немцаў тых адбіць —
Я ў гэтым бачу місію паэта.

О, як я разумею горыч слёз...
Вы плачаце, пачуўшы немца мову.
Яднаю з вашым свой пакутны лёс,
Нянавісць вашу пераношу ў слова.

Злачынствам чорным падвядзём улік.
Майго народа катаў-вурдалакаў
Я ненавіджу. Мой злучыўся крык
З кляцьбою вашай. Я з усімі плакаў.

У дзень, калі Германія мая
Змагацца выйдзе дзеля долі шчаснай —
За гэты дзень пакутаваў і я,
І дзень заднее зоркай непагаснай! —

У гэты дзень, які і ў злой бядзе
Быў нам відзён у зараве крывавым,
У гэты дзень — а ён ужо ідзе! —
«Я — немец!» — крыкну з ганаровым правам.

**УСЯГО ЧАЛАВЕКА...**

Жывога чалавека — усяго:
З пачуццямі, і розумам, і воляй,
З тым, што гняце, што радуе яго,
З ягонай глыбінёю і раздоллем —

Жывога чалавека — як ён ёсць:
Здаровага, з магутным дужым целам,
Ці кволага, які ўпадзе вось-вось,
Які, аднак, ідзе наперад смела,—

З любоўю і нянавісцю — зямнога,
З яго гніеннем і яго цвіценнем,
У час смяротны і падчас работы —

Давайце спасцігаць яго — жывога,
Ці ненавідзячы, ці ў захапленні,
Але ўсяго — да дна яго істоты.

## НЯЎЖО МАГЧЫМА...

Няўжо магчыма ў гэты час, калі
Ідзе вайна, крывавае змаганне,
І танкі звышмагутныя пайшлі,
Каб у смяротным зблізіцца таране,

Няўжо магчыма ў гэты час, што ты
Прыпынішся ля дрэва ў захапленні
І, гледзячы на сонца праз лісты,
«О, што за цуд!» — прамовіш у здзіўленні.

Ты ж ведаеш: бяздушны да ўсяго,
І гэта знішчыць вылюдак нягодны.
І дрэва лёс і сонца над табою
Цяпер залежаць ад зыходу бою.

Таму магчыма... нават больш таго —
Здзіўляцца прыгажосці неабходна.

## СЕМ НАДМАГІЛЬНЫХ ПЛІТ

Безыменна велічнае гора —
Безыменных тут ляжыць сямёра.

### ПЕРШАЯ ПЛІТА

«Бог нязломны і ў пакутах быў
І таму ён уваскрэснуць змог».—
Так сказаў ён і паклон адбіў.
«Паглядзі!» — яго паклікаў Бог.

Глянуў ён, адразу боль забыў:
Пікай быў прабіты богаў бок,
Быццам рану хтось вось-вось зрабіў...
«Раскажу народу,— даў зарок,—

Гэта — знак... хай глянуць на яго
І спасцігнуць сэнс жыцця свайго —
Здзейсняць волю божую святую...»

Пад прымусам слоў назад не браў.
Песню заспяваў, як паміраў,
Верачы, што бога ён ратуе.

### ДРУГАЯ ПЛІТА

Слабая, нямоглая была,
Стаць на ногі сілы ледзь хапала.
Зразумець, аднак, усё змагла
І на блізкіх часта наступала:

«Ваша абыякавасць да зла
Душы вам скруціла, паламала.
Я — старая, я занемагла...
А ці ў вас, здаровых, сілы мала?

Уздыміце ж горда галаву!»
Выдалі свае ж... а не здалася
І на смерць пайшла, як у царкву,

Дужая, прыгожая сабой,
Катам аб'явіла жорсткі бой —
І непераможнай засталася.

## ТРЭЦЯЯ ПЛІТА

З ім не сябравалі хлапчукі.
Дакараў настаўнік безупынна.
«Праз цябе з нас людзі строяць кпіны!»
Гаварылі злосныя бацькі.

Замыкалі дома на замкі.
Шчыра секлі дзягай і лазінай —
Уздымаць руку вучылі сына,
Гарлапаніць «хайль!», як землякі.

Ані разу не падняў руку,
«Хайль» не крыкнуў, як патрабавалі.
І тады яго арыштавалі,

Ды уцёк ад катаў на раку.
Даў нырца навек у вір ракі,
Каб не быць такім, як землякі.

## ЧАЦВЁРТАЯ ПЛІТА

Юная дзяўчынка і ў журбе
Бачыла жыццё сваё ружова.
Ён прамовіў: «Я люблю цябе!» —
Хоць гучалі незнаёма словы,

Цуд у іх адкрыўся адмысловы,
Што ў жыццёвай тлумнай барацьбе
Да святла быў вывесці гатовы,
Асвяціць нязнанае ў сабе.

І калі падстрыглі як злачынца,
І калі плявалі ёй у твар,
Глянула на неба без пракляцця,

Рукі падняла, як для распяцця,

І апошні прыняла удар,
Бласлаўляючы яго, чужынца.

**ПЯТАЯ ПЛІТА**

Ранак яго ў працы заставаў:
Ён старанна, быццам пад дыктоўку,
Літары выводзіў-маляваў,
Перапісваў не адну лістоўку.

І лісточкі ўпотай вылятаді
З рук яго на волю — там і сям.
Людзі прыпыняліся, чыталі
Тыя творы — часта бачыў сам.

З рук у рукі іх перадавалі,
І лунала праўда над зямлёй.
А яго шукаць ужо пайшлі.

А аднойчы ўсё ж арыштавалі
І ў яго лістовак шмат знайшлі...
Ён стаяў з усмешкай пад пятлёй.

**ШОСТАЯ ПЛІТА**

Ён быў простым радавым салдатам.
Ён быў ля палонных вартавым.
«Пільным быць,— падумаў ён,— ці варта
Лепш палёгку дам — сабе і ім».

Ён жа чуў, што ў будні дзень і ў свята
Крык стаяў над лагерам усім.
Ён жа бачыў, як звярэлі каты...
Ён шаптаў пакутнікам сваім:

«Уцякайце!» Так ўратаваў
Многіх ён у час сваёй аховы.
Выпусціў праз лаз у дроце шмат.

Ён цяпер з ахвотай вартаваў...
І калі яго схапілі, а ні слова

Не сказаў, бо ён жа быў салдат.

## СЁМАЯ ПЛІТА

Гэты быў суддзя. Судзіў папраўдзе.
Абавязку верны быў свайму.
Пад прымусам праўдзе ён не здрадзіў —
І за гэта кінулі ў турму.

І калі яго судзіла зграя,
Ён і тут няпраўдзе не гадзіў.
Праўда, ён казаў, не памірае...
Ён быў не падсудны, ён судзіў.

І калі на смерць яго вялі,
Крочыў, праўду несучы, з калонай,
Як і ён, да скону нескаронай...

І народ, яму здалося, славіць
Праўду, што нясе ён па зямлі...
Помнік бы суддзю таму паставіць!

## СУЗІРАЛЬНІК

Ён быў апошні, сам-насам з бядой,
Астатніх каты жорстка пакасілі —
Мудрэц з сівой і доўгай барадой,
Якія продкі некалі насілі.

Стары яўрэй ля брацкае магілы —
У горадзе апошні — распрастаў
Старыя косці раптам, быццам сілы
Даў бог яму ці салі ён богам стаў.

І крыкнуў афіцэр: «Цяпер і ты...»
Яўрэй з сівой і доўгай барадой,
Надзелены ўладаю святой,

Сказаў — за выстралам амаль нячутна —
Ды рэха словы разнясло магутна:
«Пан афіцэр! Вас бачыць бог святы!»

## ГЭТА СТАРЫЯ НАПЕВЫ

Гэта старыя напевы
Гучаць ува мне ізноў,
Ветрыкам, лёгкім павевам
Прыходзяць з далёкіх сноў.

Калі на зялёныя клёны
Прыцемкі ападуць,
Праз нашу маўклівасць калонай
Мёртвыя моўчкі ідуць.

Гэта старыя песні —
Абновіць іх час пакрысе,
І зноў вечарамі сумесна
Мы іх заспяваем усе.

Песні, што ў сэрцы пачнуцца,
Падхопіць магутны хор.
Мы памяццю будзем імкнуцца
Да вечна нязгасных зор.

**МЫ ЛЯ МОРА ГРЭЛІСЯ ТАДЫ...**

Мы ля мора грэліся тады,
Мы сачылі, як плылі гады,
І былі яны ўсе як адзін —
Без адметных сутак і гадзін.
Як людзьмі мы памятаем нас,
Быў адзіны раз вялікі час:
Супроць сілы небыцця паўстаў
Чалавек — і сам сабою стаў...

Мы ля мора грэліся тады,
Час, сатканы з шэрае нуды,
Знішчыць нас хацеў і растаптаць,—

Мы ўзняліся — каб сабою стаць.

## АГОНЬ МНЕ ГРУДЗІ ПАПЯЛІЦЬ

Агонь мне грудзі папяліць:
Я мог бяду прадухіліць.
Ахвяры хто забудзе?
Я сам сябе пашкадаваў,
Хоць, праўда, часам адчуваў:
І мы ж былі як людзі.

Агонь мне грудзі папяліць:
Ну, як віну мне замаліць?
А свет глядзіць з дакорам.
Крычаць ахвяры ноччу, днём.
Яны ўва мне гарадь агнём,
Мне сэрца паліць сорам.

## ЗЯМЛЯ ЖЫВЕ

Калі з палону селянін назад
Вярнуўся зноў дамоў пасля вайны,
Руіны і разваліны адны
Сустрэў яго разгублены пагляд.

Пустэча. Попел. Не відаць нідзе
Жывой істоты. Толькі след жытла
Мог расказаць аб жудаснай бядзе,
Што вёска гэтая перажыла.

Ён аджываў паціху, спакваля:
«Глянь! Не згарэла чорная ралля!»
...Пад ім жывая дыхала зямля.

Як у малітве рукі скрыжаваў,
«Зямля жыве!» — паціху заспяваў
І так ступаў, як поле засяваў.

**МАЛАДАЯ ЖАНЧЫНА**

Стаіць перад завалаю адна.
Пад грубай хусткай валасы схавала.
Нібы чакае некага яна...
Зноў у адчаі рукі заламала,

Не могучы бяссілля утаіць.
Хто дапаможа разабраць руіны?
І зноў перад завалаю стаіць,
Ужо нагнуцца хоча да цагліны,

А потым кленчыць і рукой грабе,
Цагліны выкалупваючы ў друзе.
Дзіцячую каляску да сябе
Падставіла, туды завалу грузіць.

Сатрэ з вачэй рукі узмахам хуткім
Слязу. На твары — брудны пыл і тло.
Праменна пасма выб'ецца з-пад хусткі,
І выблісне красы яе святло.

## МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК

Вось ён з паднятым каўняром ідзе,
Падкоўкамі аж іскры высякае.
Пагляд блукае. Толькі дзе-нідзе
Ён спыніцца. Здаецца, шлях шукае.

У цесным класе — лаўкі і сталы.
Ён, праціскаючыся, некага турбуе.
Сцінаецца і робіцца малы.
Сядзіць і думае. Ён зразумець спрабуе.

Ён адарве ад сшытка позірк свой
І ўбачыць над руінамі і смеццем,
Як неба сіняе над галавой,
Убачыць дрэва з абгарэлым веццем.

Яму на свет не хочацца глядзець.
З былым сваім не лёгка разлучыцца.
Ён сам сабе загадвае: «Сядзець!»
А вусны шэпчуць запавет: «Вучыцца!»

**МАГЧЫМА...**

Магчыма, праз гады
Усё іначай будзе —
Ад слёз, ад злой бяды
Ратунак знойдуць людзі.

Магчыма, страх праз век
Больш не кране нікога,
І створыць чалавек
Узор — сябе самога.

Магчыма, на зары
Птах у кустах прышчоўкне,
Перад якім стары
Пакутны свет прымоўкне.

Магчыма, дойдзе стогн
Няведамай дарогай
Да вас ад нашых дзён,
Каб стаць перасцярогай.

Магчыма, згіне змрок,
Прачнецца дзень бясконцы,
І кожны зробіць крок
Яшчэ бліжэй да сонца.

І пры святле тады
Мір усталююць людзі...
Магчыма, праз гады
Усё іначай будзе...

## МЁРТВЫЯ ДРЭВЫ

Па іх бамбёжка жорсткая прайшла,
І толькі пні тырчалі безгалова.
Усе падрад пабітыя сурова,
Ляжалі дрэвы між руін і тла.

Ды вось прыгрэла сонейка вяснова,
Лістота забуяла ад цяпла,
Нібы на смерць зялёная абнова
Ім загадзя заказана была.

Галінкі на ствалах як аджылі,
І дрэвы мёртвыя на іх прыўсталі
І вецем заківалі, зашапталі —

Буяў паўз вуліцы магільнік дрэў,
У ім звінеў птушыны дзёрзкі спеў,
І кроны ў квецені прыпалі да зямлі.

## СЯЛЯНКА

У плуг упрэглася яна сама,
Каб узараць зямлю, што атрымала,
Бо ведала: замены ёй няма.
Ад долу ногі ледзьве адрывала,

Нібыта ўгору з ношкаю ішла,
Баялася: вось павалюся скора...
Ніводная душа не памагла,
Так дзень у дзень яна ішла угору.

Прыйшоў канец апошняй баразне.
Яна, што не спынялася нідзе,
Магла нарэшце перавесці дух.

«Адкуль такая сіла ў мяне?»

У хуткім часе трактар павядзе!

Яна сама упрэглася у плуг.

## ПЕСНЯ НОВАЙ ЗЯМЛІ

Калі аднойчы з хат малых збірацца
Сяляне ў гурт вялікі пачалі
І дзверы расчынілі у палацы,
Было святочна на усёй зямлі.

Уміг сама зямля памаладзела,
Як разагнула першы раз спіну.
Калона трактароў вакол гудзела —
Ішла араць старую цаліну.

Сама зямля, здавалася, спявала,
Як з разагнутай першы раз спіной,
Старая вёска ураджай збірала
І гімн спявала шчодрасці зямной.

Няма паноў, і зніклі жабракі.
Цяпер пануе вольны род людскі.

## ХВАЛА ТВОРЦУ

Павагі больш няма ані
Да чорта і да бога.
Хай свецяць зоркі з вышыні —
О, як іх, зыркіх, многа!

Хай поўня над зямлёй плыве,
Вандруючы ў Сусвеце.
Хай сонца вечнае жыве —
Цяпло нам шле і свеціць.

Прыйшоў канец жахлівым снам
І бог бездапаможны.
І космас адчыніўся нам,
Бясконцы і бязбожны.

Няма там месца для таго,
Хто іншых гнуць жадае,
І на зямлі нам мець багоў
Ніяк не выпадае.

Адкрыты космас без мяжы
Для чалавечай мэты!
Ён, што быў некалі чужы,
Адкрыў свае сакрэты.

Вышэй нябёс сябе узнёс
На рукатворнай зорцы
Ты — чалавек, жывы як ёсць...
Хвалу спяваю творцу!

## ДЗЯРЖАВА

Дзяржаве новай, што паўстала з тла,
Што людам і для люду заснавана,
Што з мудрасцю ягонай зніпавана
І, як здзяйсненне дум яго, ўзрасла,

Дзяржаве, што народжана, каб быць
Апорай міру і ягонай вартай,
Што для людзей гатова ўсё зрабіць,
Каб даць прастору мары іх упартай,—

Такой дзяржаве слава і хвала!
Яе народ прызнаў усёй душой,
Бо ён і сам — прадмет яе турбот.

Дзяржава, што народнай стаць змагла,
Належыць нам, і мы належым ёй —
Адно ў адным: дзяржава і народ.

## ВЕРШ ПРА ЎЗРОСТ

І хто надаў мне той гаючай сілы,
Што ў старасці мяне памаладзіла?
Агледзеўся вакол сябе: ды не!
Яшчэ далёка старасць ад мяне.

І маладосці новыя памкненні
Прагналі смерці жудасныя цені.
Калі ж апошні жах зляцеў, як дым,
Змяніўся я, зрабіўся маладым.

Узрост расстання? Ён — святло змяркання,
Што летняй ночкай перальецца ў ранне.
Пра вечар не кажыце, што стары,
Бо ён пачатак ранішняй зары.

«Вось дык стары! — і пра мяне хтось крыкне.
Ад маладосці, гляньце, не адвыкне!»
І мудра будзе сказана тады,
Калі памру: «Дык ён жа малады!»

**ВЯРТАННЕ ДАДОМУ**

Над галавою Млечны Шлях
І водбліск бур — далёкі.
Зацішша ў лесе і ў палях
Пасля задушнай спёкі.

Спявае вецер пад акном
Напеў стары, забыты.
Дом засынае лёгкім сном,
Турботамі спавіты.

Ён сніць асветленую даль.
У досвіткавым змроку
Іскрыцца ён, нібы крышталь.
А чалавек здалёку

Прыйшоў дадому. Аж звіняць
У сэрцы успаміны.
Укленчыць хочацца, абняць
Нарог рукой павіннай.

## ДАЛЁКАЯ ПЕСНЯ

Вечарам песня ўсплывае,
Кранае нам сэрца і слых.
Гэта далёка спявае
Мёртвае войска нямых.
Моўчкі пакуты трывалі,
Моўчкі ў нябыт адышлі,
Ціха ў нас заспявалі,
Як уваскрэснуць змаглі.

Болем, адвеку нячутым,
Сэрца гаротна пякло.
Ці можна забыць пакуты,
Тое ўсё, што было?
Сэрца трывожаць пытанні,
Балючыя вельмі яны.
Хто выракацца стане
Нашай агульнай віны?

Вецер лістоту кудлаціць,
Шэпча, не ціхне на міг.
Мёртвыя вінавацяць...
Маўчанне гаворыць за іх.
Змоўклі высокія зоры.
Вецер-гарэза маўчыць.
Песня з далёкай прасторы
Не моўкне — у нас гучыць.

## **УСЕНАРОДНАЕ АПЫТАННЕ**

Яны ўжо ўпотайкі
Усё падрыхтавалі:
Складзены планы
Для выступлення,
У поўным парадку
Позвы на яўку.

Карціць паспрабаваць
Ізноў жа, трэці раз:
Мільёны ахвяр ім,
Відаць, не прынеслі
Дастаткова прыбыткаў.

Таму гэткі страх
Спытаць у народа.
Таму і баяцца
Народнага слова.

Але калі забароняць
Спытаць жывым у жывых,
То мы запытаем у мёртвых,

І тыя, што палі
У дзвюх сусветных войнах,
Адкажуць:

«Не!»

## І ДЛЯ ТАГО...

І для таго нягоды праз гады,
І для таго пакуты цяжкай працы,
І для таго вясновы луг, сады
(Той-сёй ужо знямогся і пытацца):

Ці для таго мы, немцы, у жыцці
Стараліся, нашчадкаў гадавалі,
Каб праз агонь жахлівы зноў прайсці
Шляхамі, што нам смерць падрыхтавалі?

Бязглуздасць пнецца мудрасці вучыць.
Хлусня сябе пад праўду падрабляе.
Багаты бачыць беднага ў труне

І ўжо прыбыткі хоча падлічыць...
Ды, перш чым смерч над светам загуляе,

Лунае покліч: «Не, і не, і не!»

**АДБІТАК**

Закураны дачарна,
Між мёртвых цаглін і палак
Люстэрка вісеў кавалак,
Мёртвы, як і сцяна.

Люстэрка было
Сляпое, пустое —
Сцяна ўтрымала тое
Слязьмі замглёнае шкло.

Ад трэску разбітага шкла
Свет скалануўся цалкам,
І пад дажджом кавалкаў
Бура знішчальна прайшла.

Быў крык, што адлюстраваў
Гэту пякельную буру.
Пажар у абломках мура
Палову люстэрка схаваў.

Зямля адчула удар,
І з рэчамі разам, здаецца,
Разбілася нейчае сэрца
Пад покрывам хмар.

Разбітае не злучыць!
Між мёртвых цаглін і палак
Вісіць на сцяне кавалак,
Каб пільна за намі сачыць.

Варта ў люстэрка зірнуць,
І ўбачыш у шкле пабітым:
Рэчы глядзяць з нябыту,
Рэчы, якіх не вярнуць.

Глянь — і ўбачыш цень
Тых, што жывымі згаралі.
Яны на сябе пазіралі,
Можа, да смерці за дзень.

Глянеш — і адарваць
Пагляду свайго не сумееш,
Глянуўшы, анямееш,
Хто гляне, таму не схаваць

Жаху: з люстэрка ідзе
Белага свету канчына,
Смяротная аблачына
На твар твой упадзе.

І здасца, што ўвесь сусвет
У яму ляціць ледзяную,
У гэту маўклівасць шкляную,
Губляючы сэнс і след.

Сляпая бясконцасць тла,
Што выхапіў той кавалак
Між мёртвых цаглін і палак,
Адбіткам часу была.

**СТАЛЫ ВЕРШ**

Верш,
Напісаны ў сталым веку,
Адрозніваецца
Ад вершаў майго юнацтва,
Што былі прысвечаны смутку і смерці,
Адчаю і ап'яненню.

Ад вершаў майго юнацтва
Сталы верш
Адрозніваецца
Тым,

Што ён прысвечаны маладосці,
Яе энергіі, яе свячэнню,
Яе нястомнаму парыву

Да міру,
Да абнаўлення.

## ШЛЯХ
## ДА УДАСКАНАЛЕННЯ

Любуючыся
Палацам,
Не забудзь
Пра людзей,
Што жывуць у халупах.

Схіляючы пачціва галаву
Перад веліччу
Руанскага сабора,
Падумай пра тых,
Хто жывымі згарэў
На кастрах,
Загінуў
У лагерах смерці,
У газавых камерах.

Ідучы праз трушчобы,
Прыпомні
Высокія збудовы,
Што людзі ўзвялі.

Аглядаючы
Поле бою,
Падумай пра тое,
Што жыў і тварыў
Леанарда да Вінчы
І быў чалавек,
Што зваўся Гётэ —
Бессмяротны.

Ва ўладзе ценяў
Не апранайся мары
Пра сонца.
Калі жыццё песціць
І на хвалі сваёй узносіць,
Не зваліся
Ў прадонне.
Так стасуецца

Адно з адным,
І ў сутыкненні
З нікчэмным
Вялікае адкрые ў сабе
Новую веліч,

І нікчэмнае
Не вытрымае
Яго пранізлівага позірку.

І цемра,
Прасветленая,
Ператворыцца
У ціхі світанак,
Што суцяшае.

Так зменшыцца
Заганнае
І згіне з часам,

Нікчэмнае набудзе высакароднасці,

Вялікае
Яшчэ больш удасканаліцца.

## ЁН РАЗБУДЗІЎ АД СПЯЧКІ СВЕТ — ЛЕНІН

Ён разбудзіў ад спячкі свет.
Як зыркія бліскавіцы
Словы яго па зямлі пайшлі,
Не ведаючы граніцы.

Ён разбудзіў ад спячкі свет.
А словы яго былі
І грознай зброяй, і хлебам,
Што голад перамаглі.

Ён разбудзіў ад спячкі свет.
Перараслі ў заводы,
У трактары і палацы,
Шахты і параходы,

У электрасвятло,
У звонкую песню сталі
Магутныя словы яго...
У сэрцы яны паўрасталі.

## НАВАЛЬНІЦА — КАРЛ МАРКС

Напружанне расло ў паветры. Хмары
Бясформна набягалі. Ён сядзеў,
Чытаючы, і ў корань з'яў глядзеў,
І роздум адлюстроўваўся на твары.

Ён вызваляў няведамую сілу,
Дужэючы, ён у бяссмерце рос.
Ад цемры — ў буру — вызваляў свой лёс,
А бура голасам жалезным выла.

У марах вочы закрываў — пісала
Рука сама. Не бачыў бліскавіц.
Высвечвалася цемра да драбніц,
І крэмень-думка іскры выкрасала.

Пісаў упарта — знемагала цела.
Гнёт чорных хмар душыў, нібы праклён.
Пісаў, як быццам бура гэта — ён.
Маланка паміж сказамі мігцела.

Пісаў, нібы падхоплены віхурай.
«Што раздзяляе на зямлі людзей?
Што ёсць аснова часу і падзей?»
Грымела побач перунамі бура.

Не часта буры гэткія бывалі!
Аж скаланаўся ад udараў дом.
Устаў — пайшоў пад навальнічны гром.
Чароды хмар удалячынь сплывалі.

І навальніца ўлеглася памалу.
Ці тую навальніцу ён нагнаў?
Законы часу ён як след спазнаў.
Вясёлка небасхіл сабой трымала.

Прадумаў да канца законы часу.
На небе зоркі заігралі зноў.
Свет скалануты быў аж да асноў.
З той буры змена квадры пачалася.

## ЦУД

Мяне, здаецца, нехта ўрок.

Належаць мне твой слых і зрок
Калі іду, звініць твой крок,
Што ўтоіш — знаю незнарок.
Твой шэпт нясе мне вецярок...

Я праз цябе ўваскрэснуць змог

Мяне і праўда нехта ўрок.

Я ўдзячны гэтай варажбе:

Я праз цябе пазнаў сябе.
Усё жыццё маё — ў табе.

**ТЫ —ГЭТА ЎСЁ**

Ты — гэта ўсё: мой хлеб, маё віно,
Ты — мой прамень у досвіткавым ранні,
Ты — дзён маіх нястомнае старанне,
Маёй душы празрыстае акно.

Ты — музыкі святочнай ціхай гранне,
Ты — існасць двух, з'яднаных у адно,
Майго маленства мара, парыванне,
Ты — родны кут, не бачаны даўно.

І ты была квяцістаю вясной,
Гарачым летам, што ўгрэе зямлю,
Дажджлівай восенню, зімой была.

Вандроўнай песняю ішла са мной,
Адвечным спевам: я цябе люблю,—

Маўчаннем стала, дзе звініць імгла.

**КАЛІ Б НЕ ТЫ..**

Калі б ты побач не была,
І ўлетку б я не знаў цяпла,

А без гарачых губ тваіх
Сшарэў бы дзень вясновы ўміг.

Увосень панаваў бы цень,
Каб не вачэй тваіх прамень.

Зімой марнеў бы я ўдвая,
Каб не прызнанне: «Я — твая!»

Вось так паўсюды і заўжды
Пазбыцца б я не мог бяды.

І ў вершы, каб не вобраз твой,
Іскрынкі не было б жывой.

Я па складах шапчу сабе:
«Ка-ха-на-я! Усё ў табе!»

Навечна ты ў душы жывеш...
Табе пішу і гэты верш.

## СІЛА ПАЭЗІІ

*Тры старажытныя легенды*

### I
### АМФІЁН

Здавалася, што камень зацяжкі —
Не ўзняць яго з зямлі і грамадою.
Так і ляжалі камяні вякі
Ля Тэбена базальтавай градою.

Сказаў народ: «Мы будзем пад пятою
У ворага любога, землякі,
Калі з падтрымкай божаю святою
Мур не ўзвядзём трывалы гарадскі».

Бог дапамог: ён песняй трапяткой
Крануў ім слых — і падужэлі рукі,
І камень здаўся незвычайна лёгкі.

Скрануліся паціху тыя штукі!

Яны ў сцяну ўсе леглі без прынукі,
І мур паўстаў ля Тэбена высокі,
Нібы трыумф магутнасці людской.

### II
### АРЫЁН

Ён з хвалямі упарта ваяваў.
І голас страціўшы зусім ад крыку,
Ён прыбадзёрыўся і заспяваў —
Ён дзякаваў сябрам сваім шматлікім,

Хто для яго душы не шкадаваў.
І смела вецер асядлаўшы дзікі,
Той дзіўны спеў над морам вандраваў —
Плыў разам з ім гаротны плач вялікі.

Спяваючы, адчуў ён сіл прыліў.
Пад спеў прыпомніў, што ён — бог, і змог

Дэльфіну загадаць, каб той падплыў.

Спяваў нябёсам, што ўратавалі!

Да берага іх прыгайдалі хвалі.
Цяпер зямля ўжо не плыла з-пад ног.

**III**
**АРФЕЙ**

Спяваў так ціха, што павеў дыхання
Чуцён быў люду ў гэтай цішыні,
І кожны песціў у сабе жаданне
Узняцца да нязнанай вышыні

І стаць да тых падобным, што жылі
У марах і легендах век ад веку,
І царства для людзей стварыць змаглі,
Дзе існае ўсё служыць чалавеку.

У свет падземны ён спусціўся смела —
Ад смерці любую сваю адбіць.
Яна ў палоне злых багоў марнела.

Ды цень яе сказаў: «Жадаю быгц>
Тваёй трывогай — каб душа балела,
Быць ценем, песняй — каб не мог забыць».

**АСЕННІЯ МАТЫВЫ**

I
Плыве, як дым з кастра,
Туман у лістападзе.
Асенняя пара
З журбою у паглядзе.

Апалі з дрэў трухой
Уборы нежывыя.
Апоўначы глухой
Жалобны вецер вые.

О лета! Ты прайшло,
Нібыта міг адзіны.
У груд адзін змяло
Лістоту і ўспаміны.

Вятры бяруць разбег.
Бялее камень стылы.
І ружай белай снег
Цвіце каля магілы.

II
Зялёны лес, здаецца,
Сшарэў — прыйшла пара.
Што нам ад лета застаецца?
Туман, вячэрняя зара.

Цярусіць дождж імжысты,
Лістоту вецер знёс.
Начамі светла і празрыста,
І зорны пыл мігціць з нябёс.

Час восені — задумны
Пра шчасце напамін.
Угнацца час не можа тлумны
За хуткаплыннасцю хвілін.

І цяжкі ўрок дарэчы
Нам восень дасць тады:

Не кажа час нам: «Да сустрэчы!»
«Бывай! — гаворыць.— Назаўжды!»

III

Дрэвы: стракатыя кроны
Каля дарогі ў рад.
Восень: слязою замглёны
Халаднаваты пагляд.

Восень прысуд выносіць
Часу за ўсе грахі,
А то і спагады просіць,
Змахнуўшы слязу са шчакі.

Глянь, як туман адлятае.
Дзень прасвіціцца — да дна.
А вечарам зноў асядае
Туманная сівізна.

То ў прасвятленні, то ў змроку —
Характар такі ў яе —
Восень адыходзіць па кроку,
То плача, а то пяе.

**БЕЗЫМЕННЫМ**

Быць ці не быць? — жыло і ў нас пытанне.
Яшчэ было пытанне: хто ёсць хто?
Ці ён нязменны ўвечары і ўранні?
Куды ідзе ён? Ім кіруе — што?

З якою мэтай і якою верай?
Любы — загадка... разгадай яго...
Той-сёй і сам яшчэ не знае меры
Таго, што робіць, у імя чаго...

Ты хто? Ты — хто? О час нямых пытанняў...

Баяліся мы здрады з-за вугла.
Зімовай ноччу — ветру завыванняў,
Начамі ўлетку — буры небяспечнай...

— Пытальнік і — працяжнік, як страла —

І шмат імён закрэслена навечна.

**ПАРАДА**

Да селяніна падышоў прарок:
«Няўжо не бачыш, што за час цяпер?
Канец жа свету блізіцца, павер.
Нашто арэш зямлі сваёй шнурок —

Табе ж да смерці, можа, толькі крок,
Усё загіне: чалавек і звер...»
Так ціха-ціха прашаптаў прарок
І з ветрам знік у змроку іншых сфер.

А селянін прамовіў: «Вер — не вер...
Канца таго я не прадухілю...
А як спытаюць пра сяўбу, раллю?

Рабіце ж, людзі, так, як я раблю:
Дабром засейце родную зямлю —
Сяўба — адна з жыццесцвярджальных мер».

## УЖО ВЕЧАРЭЕ

Ужо а сёмай вечарэе.
«Яшчэ нас лета ці пагрэе?» —
Кажу я. «Запалі святло!»
У змроку можна пашаптацца,
Паплакаць моўчкі, штось спытацца,
Век праўды ў змроку не было.
Прычыны радасці і плачу
Я пры святле — і толькі! — ўбачу.
Хачу святла! Яно адно
Дабро і зло раздзеліць ладам,
Адлучыць праўду ад няпраўды,
Ад верху адмяжуе дно.

Хачу святла, каб не згубіцца
І ад людзей каб не адбіцца.
Ахвяр чакае змрок-ліхвяр.
У прыцемках баюся збочыць...
Хачу святла — убачыць вочы,
З кім гавару — і рот, і твар.
Яшчэ мне рукі трэба ўбачыць.
Сэнс гутаркі яны азначаць —
Рашуча: так! бязвольна: не...
Маўчыць язык — яны гавораць.
То шчырасцю адкрытай дораць,
То штосьці тояць ад мяне.

Змрок акружае нас, палоніць,
Святло прывіды, жахі гоніць.
Ты, зорачка мая, свяці!
Лунай пад столлю у пакоі,
Мне высветлі, што я такое,
Дай накірунак у жыцці.

Ужо а сёмай вечарэе.
Яшчэ жыццё нас ці пагрэе?
Люстэрка ў змроку — змрок нямы.
Палі святло! Святло — дарадца.
У люстры будзем углядацца
І адлюструем праўду мы.

## КРОК СЯРЭДЗІНЫ ВЕКУ

Зямля квітнець жадае,
Як не квітнела век.
Да зорак узлятае
Крылаты чалавек.

Рашылі цвёрда людзі,
Каб свет у міры жыў,
І мір на свеце будзе,
Бо так народ рашыў.

Нас слабакі пужаюць —
Знайшлі каго пужаць! —
Са страху паграhouseholds,
А самі аж дрыжаць.

Свет не спаліць вар'ятам
У атамным агні.
Не дрэмле пільна варта
У зорнай вышыні.

З мільёнамі ў паходзе
Мкнём крокам страявым —
Сярэдзіна стагоддзя
На маршы баявым.

У гуле катарактаў
Ідзём праз гарады.
Мы адбіваем такты,
І спеў наш малады.

Старое адыходзіць.
Прыходзіць новы час.
Канец тысячагоддзя
Вітае шчасцем нас.

**ЗАПАВЕТ ПАЭТА**

Гадоў трывожных чарада жывая
Парвецца раптам — хочаш ты ці не.
Тады дазволь — я славу праспяваю
Табе, зямля,— і забяры мяне.

Без гучных слоў няхай мяне праводзяць,
Хай будзе песня ціхая чуваць.
Хай пахаванне ў гэткі час праходзіць,
Каб анікога не патурбаваць.

Нічога — толькі прозвішча і даты,
І ля мяне — каханая мая.
Мяне — загадку — адгадаць змагла ты.
Цябе — адзіную — збярог у сэрцы я.

Што гэта: забабоны ці наіўнасць —
Чакаць, што нехта не пазнаў цябе...
Як ты завешся, час? Імя: Забыўнасць.

Шчаслівы, хто не дбае пра сябе.

## ЗМЕСТ

**Бэхер Ё. Р.**
**Вяртанне да сябе:** Вершы/ Пер. з ням У. Папковіча; Прадм. А. Клышкі,— Мн., Маст літ., 1985.- 127 с., 4 л. і л , - (Паэзія народаў свету).

Кніга лірыкі нямецкага паэта-антыфашыста лаўрэата Міжнароднай Ленінскай прэміі міру (1952) складзена з твораў напісаных на працягу ўсяго творчага жыцця. У вершах адлюстраваны шлях паэта: ад захаплення экспрэсіянізмам і сімвалізмам да творчага метаду сацыялістычнага рэалізму.